



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

13 кастрычніка 2017 года №41 (1172)


## Віншуем жанчын з Днём маці!

**Молодечномебель. И самый искушённый покупатель оценит уют, который мы создаём**

старонка 3

**Маладзечанец, у якога адабралі лецішча: Нас пасялілі на бомбе, а цяпер забіваюць**

старонка 21



# Дома размаўляю з мужам-вайскоўцам: "зубкі пачысціў?", "ручкі памыў?"

Лепшая выхавальніца рэспублікі – пра перамогу, сям'ю і працу.

старонка 2

Фота Наталлі ТУР

НАВІНЫ

## На вілейскіх аўтобусах з'явяцца слоганы пра карысць ровара

ВІЛЕЙКА

Заяўка вілейскага аб'яднання "ЗОВіК" выйграла чарговы грант сярод беларускіх гарадоў, што летась далучыліся да Пагаднення мэраў.

На атрыманыя ад Еўрасаюза грошы віляйчане зладзяць праект па далейшым развіцці роварнага руху ў раёне.

– Усяго на гэты конкурс ад Вілейкі падавалі чатыры заяўкі: дзве – ад райвыканкама і дзве – ад "ЗОВіКа", – распавяла "РГ" старшыня арганізацыі "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**. – Выйграла адна з нашых заявак, якую распрацоўваў віляйчанін **Яўген Івашкевіч**.

Па словах Таццяны Часлаўны, у "ЗОВіКу" новаму праекту далі рабочую назву "Велапакатушкі".

У яго межах распрацуюць карты роварнага руху, дзе пазначаць маршруты, па якіх лепш з розных канцоў Вілейкі даехаць да цэнтра горада. Карты размесцяць на інфармацыйных стэндах, якія ўстановяць на вілейскіх вуліцах.

А яшчэ ў межах праекта аб'явілі конкурс слоганаў для гарадскіх аўтобусаў. У кароткай фразе неабходна пераканаць віляйчан больш карыстацца роварам і грамадскім транспартам і менш ездзіць на аўтамабілі.

Пераможцу чакае прыз. А вялікія налепкі са слоганам упрыгожаць некаторыя вілейскія аўтобусы.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Устанавілі камп'ютар з базай вакансій у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Як распавялі ў райвыканкаме, цяпер у фае Цэнтра занятасці насельніцтва ўстанавілі камп'ютар.

У камп'ютары для тых, хто шукае працу, размясцілі базу дадзеных па вакансіях у Маладзечне.

– Камп'ютарам можа карыстацца любы ахвотны, – расказала начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва **Алена Барада**. – Самае галоўнае, што ўсе вакансіі ў кам'ютары прадстаўленыя ў рэжыме анлайн, з самай актуальнай інфармацыяй па вакансіях у рэгіёне. Чалавек, які шукае працу, можа паглядзець кантакты і патэлефанаваць працадаўцу тут жа, не адыходзячы ад камп'ютара.

## У Налібоках зладзілі выязную калегію Міністэрства лясной гаспадаркі

ВАЛОЖЫН

27 верасня ў рэспубліканскім ландшафтным заказніку "Налібоцкі" адбылася выязная калегія Міністэрства лясной гаспадаркі рэспублікі, распавяла прэс-сакратар міністэрства **Анастасія Дакучаева**.

На калегіі разглядалі пытанні аднаўлення і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў і турызму.

Супрацоўнікі Налібокаў прадэманстравалі адзіны ў краіне гадавальнік па развядзенні цецерукоў, цэнтр па адлове і перапатрымцы капытных, экалагічную сцежку, біятэхнічныя збудаванні.

Аксана ЯРАШОНАК.

## На фестываль дзіцячых СМІ ў "Зубраняці" запрасілі маладзечанцаў

МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

У дзіцячым цэнтры "Зубраня" ў трынаццаты раз ладзяць фестываль-конкурс дзіцячых СМІ "Свежы вецер".

На спецыяльную змену "Прэс-перспектыва", дзе зладзяць другі тур конкурсу, запрасілі пераможцаў адборачнага тура, вучняў 10-11 класаў школ рэспублікі.

На працягу змены ад 25 кастрычніка да 14 лістапада арганізатары конкурсу абяцаюць удзельнікам сапраўдныя прафесійныя пробы і шмат магчымасцяў папрактыкавацца ў журналістыцы.

Сярод запрошаных – юныя журналісты з Маладзечна. Гэта прадстаўнікі гімназіі №10, цэнтра "Маладзік" і гімназіі-каледжа мастацтваў.

## У Смаргоні правялі злёт музеяў раёна

СМАРГОНЬ

30 верасня ў смаргонскай гімназіі сабраліся супрацоўнікі школьных музеяў Смаргоншчыны.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі прадстаўнікі васьмі музеяў. Удзельнікі праявілі сябе на трох пляцоўках: "Візітка", "Захавальнікі гісторыі" і "Лепшы экскурсавод".

Лепшай у злёце стала каманда з Крэва. На другім месцы – прадстаўнікі смаргонскай гімназіі, на трэцім – прадстаўнікі каманды з Солаў, распавялі ў райвыканкаме.

Аддзел інфармацыі.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ

Антон Мучкоўскі ўпершыню ўдзельнічае ў перапісе. Першы дзень у новай якасці ў інтэрнаце Маладзечанскага політэхнічнага каледжа.

# Планшэты ў пробным перапісе – для эканоміі

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 2 да 13 кастрычніка ў Маладзечне і некаторых вёсках раёна праходзіць пробны перапіс насельніцтва.**

Пра тое, чаму менавіта Маладзечна, для чаго планшэты і што з імі будзе пасля перапіснай кампаніі, мы распыталі начальніка арганізацыі і правядзення перапісу насельніцтва Нацыянальнага статыстычнага камітэта **Антона Мучкоўскага**.

Перапіс у Маладзечне праводзяць работнікі Галоўных упраўленняў статыстычнага камітэта абласцей і Мінска, Белстата, райаддзела статыстыкі Маладзечна. Немясцовыя гэты час будуць жыць у Маладзечне, усе будуць працаваць ад 9 да 21 гадзіны з перапынкамі на абед і адпачынак без выхадных.

Маладзечна – сярэдні і тыповы раён Беларусі, абраны месцам тэставання менавіта за гэта. Тут ёсць і новыя раёны, і старыя, ёсць прыватны сектар у горадзе, і катэджная забудова адразу за горадам. Маладзечна і ў мінулы пробны перапіс было аб'ектам тэставання.

### Не ўсе давяраюць планшэтам

Перапісчыкі падзяліліся па ўчастках. Антон праводзіў апытанне ў інтэрнаце політэхнічнага каледжа.

– Людзі на перапіс рэагуюць пазітыўна. Маладзечанцы былі вельмі добразычлівыя, ахвотна адказваюць на пытанні.

Апытаць аднаго чалавека можна за 4 хвіліны. Калі чалавек распавядае пра сям'ю з пяці чалавек, гэта можа заняць 20 хвілін.

Бланк пытанняў на чалавека складаецца з 26 асноўных пытанняў і некалькіх дадатковых. Таксама ёсць бланк пытанняў па жылым памяшканні, складаецца з 8 пунктаў, бланк па сельскагаспадарчым участку на 5 пытанняў, і пра замежных гасцей – на 8. Паглядзець пытанні бланкаў можна на сайце Белстат.

На ўсялякі выпадак перапісчыкі носяць і папяровыя перапісныя бланкі – раптам людзі адмовяцца, каб перапісчык карыстаўся планшэтам.

– У Беларусі ёсць населеныя пункты, жыхары якіх па рэлігійных матывах адмаўляюцца карыстацца любымі гаджэтамі. Яны вядуць такі лад жыцця і, наколькі мне вядома, нават адмовіліся ад пашпартоў. Да іх прыязджалі людзі, якім жыхары давяралі, і задавалі свае пытанні, запісвалі адказы на паперы.

### Планшэт эканоміць грошы

Пробны перапіс патрэбны для таго, каб разлічыць нагрузку на перапісчыка, ацаніць рэакцыю рэспандэнтаў. Сёлета тэстуюць таксама магчымасць правядзення кампаніі праз планшэт.

– Планшэт пры перапісе – гэта эканомія, – тлумачыць Антон. – Нават нагледзячы на тое, што на пакупку іх будзе выдаткаваная немалая сума. Ранейшыя папяровыя бланкі, якія трэба надрукаваць, іх перавозка, распазнаванне – гэта ўсё было вельмі дорага. Таму з планшэтамі мы, у першую чаргу, эканомім грошы. Падругое, такі спосаб значна паскорыць апрацоўку дадзеных, павысіць іх якасць. Мы адразу павысілі кантроль адказаў. І адказы з серыі "нарадзіўся ў Нарніі" праз планшэт больш не пройдуць.

У асноўным перапісе, прызначаным на кастрычнік 2019 года, будуць удзельнічаць 15 тысяч чалавек, якіх забяспечаць па планшэту. Тут будуць працаваць работнікі дзяржорганаў, будуць прыцягваць валанцёраў, студэнтаў.

Пасля працэдуры частку гаджэтаў пакінуць у статыстычным камітэце для правядзення наступных даследаванняў. Мяркуецца, што большую частку перададуць Міністэрству аховы здароўя, якія вядуць праект па забеспячэнні планшэтамі работнікаў "хуткай дапамогі". Гэта дазволіць доктару на месцы прыезду ўвесці ідэнтыфікацыйны нумар хворага і атрымаць доступ да яго медкарткі, убачыць, на што ў яго алергія і іншыя звесткі.

### Для чаго трэба перапіс

Перапісы ладзяць для таго, каб сабраць сацыяльна-эканамічна важныя паказчыкі, якія дапамогуць скласці дэмаграфічныя і іншыя прагнозы. Гэтыя звесткі дапамогуць праанаалізаваць існуючую сітуацыю і ацаніць, як далей развіваць рэгіёны.

– Мы запісваем са слоў рэспандэнтаў. Калі ён не хоча адказваць на пытанне – мы не настойваем. Плануем, што на асноўным перапісе мы зможам падцягнуць ідэнтыфікацыйны нумар, каб чалавек мог назваць нумар, перапісчык увёў і атрымаў ужо запоўненыя графы пашпартных дадзеных. Калі рэспандэнт не захоча даваць нумар, то гэтыя звесткі будуць запісваць з яго слоў.

Адзін з аспектаў даследавання – чым займаюцца людзі на сваёй зямлі. У Беларусі ў 2019 годзе ўпершыню будуць праводзіць сельгасперапіс. Пытанні па сельскай гаспадарцы будуць задаваць падчас асноўнага перапісу.

Калі дадзеныя апрацуюць, яны будуць патрэбныя многім ведамствам, многія інстытуты, Акадэмія навук пры сваіх даследаваннях запытваюць звесткі Белстата. Гэта інфармацыя патрэбная і для бізнесу, каб разумець аўдыторыю, для якой плануюць працаваць.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ТЭМА НУМАРА

# Гадзіннік на “Брадвеі”:

## стрэлкі адваліліся, час паказвае не той

МАЛАДЗЕЧНА

**Тыя, хто часта ходзіць па вуліцы Прытыцкага, заўважылі, што дакладны час на самым прыгожым гадзінніку ў горадзе зверыць атрымоўваецца не заўсёды.**



Гадзіннік на “Брадвеі”, здаецца, ідзе, але чамусьці час паказвае розны. Фота Наталлі ТУР.

З аднаго боку гадзінніка стрэлак увогуле няма, з іншых бакоў – кожны цыферблат паказвае розны час.

А між тым, у 2011, калі ўсталёўвалі яго, падрадная арганізацыя “Спецбудмеханізацыя” абяцала, што тэрмін службы гадзінніка 20 гадоў і час павінны карэктавацца аўтаматычна праз спадарожнікі.

Гадзіннік для Маладзечна зрабілі ў Мінску, на заводзе металаканструкцый “Профіт”. Мы патэлефанавалі дырэктару прадпрыемства **Аляксандру Кудраўцу**, каб запытацца, ці цікавяцца яны лёсам сваёй прадукцыі:

– На гадзіннік у Маладзечне была гарантыя два гады. Цяпер ён знаходзіцца на абслугоўванні. Арганізацыя, наколькі я памятаю, гэта “Камунальнік”, на балансе якой той гадзіннік лічыцца, можа звярнуцца да нас з просьбай ліквідаваць непаладкі. Нашы інжынеры абавязкова прыедуць і ўсё наладзяць. Стрэлак, кажаце, няма? Паставім.

– А звярталіся да вас з Маладзечна?

– За апошні год дакладна не. А ці былі званкі раней, я не ведаю.

У “Камунальніку” па пытанні гадзінніка нас накіравалі да галоўнага энергетыка прадпрыемства **Міхаіла Семянкевіча**. Той адказаў:

– Я цяпер вельмі заняты і не маю часу з вамі пагаварыць. Пазваніце пасля 10 кастрычніка.

Чакаў гадзіннік шмат часу, калі на яго звернуць увагу, пачакае яшчэ тыдзень. А потым запытаемся, чаму ж гадзіннік паказвае не той час і ці змогуць у хуткім часе гараджане звяраць па ім свае гадзіннікі і прызначаць спатканні роўна ў 19:00 па ўсіх чатырох цыферблатах.

**Наталля ТУР.**

# Паважаныя пасажыры!

УП “Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі” інфармуе

## У сувязі з РАМОНТАМ ЧЫГУНАЧНАГА МОСТА на перагоне Вілейка-Маладзечна

ад 9:10 **9 кастрычніка** да 18:40 **11 кастрычніка**
ад 9:10 **23 кастрычніка** да 18:40 **25 кастрычніка**

1. Цягнікі рэгіянальных ліній эканомкласа:
   - ◄ адпраўленнем са станцый Крулеўшчына, Полацк, Глыбокае **БУДУЦЬ ІСЦІ** да станцыі Вілейка і назад;
   - ◄ кірункам Маладзечна-Вілейка-Маладзечна **ЗДЫМАЮЦЦА.**

2. Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканомкласа на перыяд рамонтных работ:

**◄ 9 і 23 кастрычніка**

| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
|---|---|---|
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19:05 |

| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення са ст. Вілейка |
|---|---|---|
| 6630/6631 | Вілейка - Глыбокае | 21:10 |

**◄ 10 і 24 кастрычніка**

| № цягніка | Маршрут руху | Час прыбыцця на ст. Вілейка |
|---|---|---|
| 6622/6621 | Глыбокае - Вілейка | 6:41 |
| 6625 | Полацк - Вілейка | 19:05 |

| № цягніка | Маршрут руху | Час адпраўлення са ст. Вілейка |
|---|---|---|
| 6626 | Вілейка - Полацк | 9:30 |
| 6630/6631 | Вілейка - Глыбокае | 21:10 |

3. Перавозка пасажыраў паміж станцыяй Маладзечна і станцыяй Вілейка

   БУДЗЕ АДБЫВАЦЦА аўтобусамі па чыгуначных білетах (БЕЗ ЗАЕЗДУ НА ПРЫПЫНАЧНЫЯ ПУНКТЫ: “Тышкевічы”, “Даманоўскі”, “Чырвоны Беражок”, “Зеніт”).

4. Расклад руху аўтобусаў:

**◄ 9 і 23 кастрычніка**

| Вілейка-Маладзечна | | Маладзечна-Вілейка | |
|---|---|---|---|
| Адпраўленне са ст. Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне са ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 19:15 | 20:00 | 20:12 | 20:57 |

**◄ 10 і 24 кастрычніка**

| Вілейка-Маладзечна | | Маладзечна-Вілейка | |
|---|---|---|---|
| Адпраўленне са ст. Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне са ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6:47 | 7:32 | 8:35 | 9:20 |
| 19:15 | 20:00 | 20:12 | 20:57 |

**◄ 11 і 25 кастрычніка**

| Вілейка-Маладзечна | | Маладзечна-Вілейка | |
|---|---|---|---|
| Адпраўленне са ст. Вілейка | Прыбыццё на ст. Маладзечна | Адпраўленне са ст. Маладзечна | Прыбыццё на ст. Вілейка |
| 6:47 | 7:32 | 8:35 | 9:20 |

**Просім Вас улічыць, што працягласць паездкі ў гэты дзень павялічыцца.** УНП 600199541

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.09 | 5.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9614 | **1,9650** |
| Еўра | 2,3033 | **2,3111** |
| Злоты, 10 | 5,3561 | **5,3805** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3770 | **3,4010** |
| Грыўня, 100 | 7,4099 | **7,3321** |
| Курсы ў “Банку БелВЭБ” | 27.09 | 4.10 |
| Еўра | 2.2950/2.3100 | **2.2900/2.3150** |
| Долар ЗША | 1.9450/1.9650 | **1.9550/1.9720** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 27.09 | 4.10 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,68 | **6,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,35 | **3,18** |
| Свініна (вырazка), 1 кг | 8,50 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,85 | **4,05** |
| Селядзец, 1 кг | 3,30 | **3,95** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,80 | **1,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,30 | **1,60** |
| Алей “Залатая семачка” 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,75 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 5,49 | **4,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,59 | **0,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,00 | **1,50** |
| Гарбуз, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,50** |
| Памідоры, 1 кг | 1,40 | **1,45** |
| Агуркі, 1 кг | 2,30 | **1,99** |
| Перац, 1 кг | 1,49 | **1,79** |
| Кавун, 1 кг | 0,75 | **0,85** |
| Вінаград, 1 кг | 3,49 | **2,99** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 4,00 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 4,95 | **2,95** |
| Персікі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Гранат, 1 кг | - | **7,50** |
| Слівы, 1 кг | 2,69 | **1,99** |
| Бананы, 1 кг | 1,85 | **1,89** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,99 | **4,45** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,49 | **1,49** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,49 | **1,75** |
| Грушы, 1 кг | 3,80 | **1,95** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00-8,00** |

● УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць падазраваных у цяжкіх злачынствах

МАЛАДЗЕЧНА

Аддзел крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС шукае асоб, падазраваных у датычнасці да цяжкіх злачынстваў.

**Першы падазраваны**



Мужчына, група крыві B(II), на выгляд 45-50 гадоў, рост каля 165, сярэдняга целаскладу.

На твары глыбокія зморшчыны. Быў апрануты ў цёмную вязаную шапку з адваротам, уцепленую куртку цёмную або светла-карычневага колеру з каўняром з начосам.

Пры сабе можа мець газавы балончык. Ад адзення можа ісці непрыемны пах тухласці або прэласці.

**Другі падазраваны**



Мужчына, на выгляд 50-60 гадоў, рост каля 170-175, сярэдняга целаскладу. Сівыя кароткія валасы, прычоска тыпу "вожык". Быў апрануты ў чорную майку з кароткім рукавом, запраўленую ў светла-зялёныя штаны. Меў чорны рэмень з матэрыі.

Калі вы штосьці ведаеце пра гэтых мужчын, звяртайцеся ў Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **(80176) 77-16-56, 74-98-55, (8029) 269-58-21, 870-55-24, 761-75-25** ці **102.** Гарантуецца ананімнасць і грашовае ўзнагароджанне.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● НАВІНЫ

## Апаліла токам 11-гадовага хлопчыка

СМАРГОНЬ

Каля 15 гадзін 1 кастрычніка ў бальніцу даставілі хлопчыка з тэрмічнымі апёкамі рук і ног з агульнай плошчай больш за 50%.

Хлопчык з аднагодкамі быў на тэрыторыі чыгуначнай станцыі.Па лесвіцы залез на дах вагона, падрыхтаванага да адпраўкі. Дакрануўся рукой да кантактнага праводу над чыгуначнымі пуцямі, што быў пад напружаннем. У выніку атрымаў апёкі.

Хлопчыка выхоўваюць у добрай сям і, характарызуюць яго станоўча, на ўліку не стаяў.

**Паводле сайта Следчага камітэта.**

## Конь пакусаў аўтамабіль

ВАЛОЖЫН

У Валожыне конь пакусаў прыпаркаваны Renault Duster. Гаспадара жывёлы шукаюць. Пра гэта паведамілі ў Дзяржаўным камітэце судовых экспертыз.

У верасні ў міліцыю звярнулася жыхарка Валожына з заявай аб пашкоджанні яе аўтамабіля. Для ўстанаўлення ўсіх абставінаў на месца здарэння выехала следча-аператыўная група, у склад якой уваходзіў эксперт-крыміналіст Дзяржкамітэта судовых экспертыз.

У ходзе агляду эксперт устанавіў, што пашкоджанні на аўтамабілі – сляды ад зубоў жывёлы, верагодна, каня. Такім чынам, ён выключыў факт злачыннага дзеяння чалавека.

Цяпер Валожынскі РАУС устанаўлівае асобу гаспадара жывёлы.

**Паводле tut.by.**

## Валожынец пабіў пенсіянерку за шэсць рублёў і дзевяць капеек

ВАЛОЖЫН

Увечары на пачатку верасня жыхар Валожына пабіў на вуліцы пенсіянерку і скраў у яе з кішэні штаноў грошы.

Здарэнне адбылося на вуліцы Горкага, дзе пражывала пацярпелая.

П'яны мужчына напаў на яе і стукнуў кулаком у твар. Жанчына павалілася і пачала клікаць на дапамогу.

Тады валожынец стукнуў яе яшчэ раз, выцягнуў з кішэні ў жанчыны шэсць рублёў і дзевяць капеек і збег.

Па словах следчага РАСК **Мікіты Мілеўскага**, 25 верасня на мужчыну завялі крымінальную справу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Інтэрнэт-махляры ўзламалі старонкі віляйчан "Укантакце"

ВІЛЕЙКА

**Інтэрнэт-махляры ноччу з 15 на 16 верасня ўзламалі старонкі двух віляйчан у сацыяльнай сетцы "Укантакце" і "развялі" на грошы некаторых з іх сяброў, распавялі ў аддзеле крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**



Інтэрнэт-махляры знялі з картак пацярпелых ад 40 да 70 рублёў.

Саміх гаспадароў старонак у сацсетках не было. Ад іх імя махляры звярнуліся да сяброў у анлайне з просьбай заплаціць за нейкі набытак у інтэрнэце, бо іх картка, быццам бы, не працуе.

Маўляў, дазволь мне скарыстацца тваёй карткай, а я пасля аддам грошы. Для гэтага прасілі даслаць фотаздымкі карткі з двух бакоў.

"Дапамагчы" сябрам, а ў сапраўднасці махлярам, пагадзіліся пяць чалавек 22-24 гадоў. Некаторым з тых пяці пашанцавала: у адной дзяўчыны не было грошай на рахунку, у другой на картцы быў спецыяльны код бяспекі. А вось з картак трох хлопцаў інтэрнэт-махляры знялі ад 40 да 70 рублёў.

Пра тое, што іх падманулі, пацярпелыя даведаліся раніцай з інтэрнэт-паведамленняў сяброў, якія пыталіся навошта ім грошы.

Як распавялі ў аддзеле крымінальнага вышуку, раскрыць такое злачынства цяжка. Не выключана, што пацярпела больш віляйчан.

Трэба рабіць запыт у Расію, потым доўга чакаць адказу. IP-адрас махляроў можа быць зарэгістраваны ў любой краіне свету.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Маладзечаншчыне "Фольксваген" наехаў на шасцігадовага хлопчыка

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарылася гэта 25 верасня ў вёсцы Бяртошкі.**

Пасля 16 гадзін 50-гадовы жыхар Маладзечна ехаў на аўтамабілі "Фольксваген-Каравэла" па вясковай вуліцы Славянскай. Паблізу дома №4 машына наехала на шасцігадовага мясцовага хлопчыка. Ён раптоўна выбег з-за транспарту, які стаяў, паведамлене ДАІ Мінскай вобласці.

У выніку дзіця шпіталізавалі ў Маладзечанскую ЦРБ. Яго дыягназ: закрытая чэрапна-мазгавая траўма, закрытая траўма грудной клеткі, падскурная гематома, ранкі цемяннай вобласці, твару, паяснічнай вобласці, левага перадплечча, кісці, сцягна і іншыя траўмы.

### Парады для бацькоў і кіроўцаў ад ДАІ

Паважаныя бацькі! Не пакідайце малалетніх дзяцей без нагляду, будзьце ім прыкладам на дарозе. Святлоадбівальныя элементы на вопратцы і абутку – усё гэта дапаможа кіроўцу загадзя заўважыць на дзіцяці ўвагу, а значыць, кіроўца будзе мець магчымасць прыняць меры для тармажэння або экстраннага прыпынку.

**Асобная тэма – мабільныя тэлефоны і навушнікі. Дамажыцеся таго, каб дзіця паблізу або на праезнай частцы не размаўляла па тэлефоне і не слухала музыку ў навушніках.**

Гэта адцягвае яго ўвагу. І, вядома ж, часцей нагадвайце дзецям, як паводзіць сябе на дарозе і ў транспарце.

Паважаныя кіроўцы! Пад'язджаючы да пешаходнага пераходу, будзьце вельмі ўважлівыя, асабліва паблізу ўстаноў адукацыі, так як на дарогу раптам можа выбегчы дзіця. Гэта адносіцца і да транспарту, які стаіць.

У абавязковым парадку перавозьце дзяцей толькі прышпіленымі рамянямі бяспекі, а для дзяцей малодшага ўзросту выкарыстоўвайце спецыяльныя прылады.

**Аддзел інфармацыі.**

## Аварыя ў Маладзечне: за кіраванне ў нецвярозым стане затрымалі пяты раз

МАЛАДЗЕЧНА

**ДТЗ адбылося 1 кастрычніка ў 18:45 на аўтобусным прыпынку па Вялікім Гасцінцы.**

Як пасля расказаў кіроўца маршрутнага аўтобуса, ён выязджаў з "кішэні" на прыпынку, калі раптам адчуў моцны ўдар у заднюю левую частку аўтобуса. Праз хвіліну машыну ад удару развярнула, і кіроўца МАЗа ўжо адчуў удар у пярэднюю левую частку аўтобуса.

Вінаватым у ДТЗ аказаўся 25-гадовы кіроўца аўтамабіля "Додж-Караван", які спрабаваў з месца здарэння з'ехаць, аднак быў затрыманы патрульна-паставой службай, якая дзяжурыла паблізу.

Пасля затрымання хлопец прызнаўся, што перад тым, як сесці за руль, выпіў 300 грамаў гарэлкі.

– Вось што цікава, – расказвае інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**, – гэты хлопец ужо прыцягваўся да адказнасці за кіраванне ў нецвярозым стане ў верасні 2011 года, у лістападзе 2012, у снежні 2013, у кастрычніку мінулага года. Сёлета ж хлопец атрымаў склад крымінальнай справы, паводле якой яго машына належыць канфіскацыі. Акрамя таго складзеныя пратаколы за кіраванне ў нецвярозым стане паўторна за год, за адсутнасць страхоўкі і за невыкананне дыстанцыі.

**Наталля ТУР.**



# Дзевяць вёдзер грыбоў для бліноў і аладак:

## у каледжы зладзілі грыбны фэст

ВІЛЕЙКА

**На грыбным фэсце ў вілейскім каледжы навучэнцы гатавалі дранікі, аладкі і бліны з грыбамі.**

Правесці фестываль "Сырая сыраежка" прапанаваў дырэктар каледжа **Ігар Кіцікаў**. Ён у нас генератар ідэй, кажуць падначаленыя.

І вось 27 верасня, пакуль грыбны сезон яшчэ не скончыўся, зладзілі першы этап фестывалю. Тры каманды "Баравічкі", "Лесавічкі" і "Рыжыкі" выправіліся ў лясы Вілейшчыны разам з дырэктарам, майстрамі вытворчага навучання і педагогам-арганізатарам **Святланай Мацукевіч**.

45 хвілін было ў камандаў на збор грыбоў. За гэты час кожная каманда сабрала амаль па тры вядры.

– Збіралі па-рознаму, – кажа Святлана Мацукевіч. – Хтосьці гнаўся за колькасцю, хтосьці – за якасцю і браў толькі самыя лепшыя маладзенькія грыбы.

Паход скончыўся паспяхова. Ніхто не заблукаў. Па словах педагога-арганізатара Святланы Мацукевіч, майстры вельмі пільна і адказна сачылі за дзецьмі. У вёдрах прынеслі курачкі, парасонікі, баравікі, махавікі, сыраежкі і некалькі лісічак.

**Найбольш грыбоў сабралі "Рыжыкі", на другім месцы "Лесавічкі", а "Баравічкі" замкнулі тройку.**

Перабіралі і чысцілі грыбы разам, пад кіраўніцтвам і наглядам майстроў **Алы Дарошкі**, **Алены Фірс** і **Алены Багачэкі**. Таму, хоць сярод грыбнікоў былі навічкі, неядомы грыб трапіць у страву не мог ніяк.

– Самае складанае – гэта не сабраць і не пачысціць грыбы. Найбольш складана іх правільна прыгатаваць, захаваўшы ўсе тэхналагічныя этапы, – перакананая майстар вытворчага навучання Ала Дарошка.

Яна працуе ў каледжы з навучэнцамі, якія рыхтуюцца стаць поварамі. Прыгатаванне грыбоў і агародніны цяпер якраз яны праходзяць па праграме.

У другі дзень фестывалю каманды гатавалі з грыбамі розныя стравы. Дранікі гатавалі "Лесавічкі", аладкі абралі "Баравічкі", а "Рыжыкі" ўзяліся за бліны.



Фота Святланы МАЦУКЕВІЧ.

**Каманда "Рыжыкі" атрымала дыплом першай ступені за бліны з грыбамі.**

Журы ўзначаліў дырэктар каледжа. У выніку дранікам і блінам з грыбамі далі першыя месцы. А на другім апынуліся аладкі.

Сярод гледачоў былі вучні вілейскіх школ, якіх арганізатары забаўлялі інтэлектуальнымі конкурсамі.

Магчыма, фестываль стане традыцыйным. Ва ўсялякім разе, навучэнцы не супраць паўдзельнічаць у такім мерапрыемстве яшчэ раз.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзённік мамы першакласніцы: як Варвара стала вучаніцай

МАЛАДЗЕЧНА

**Здзіўленыя, што вучаніцай Варвара стала толькі цяпер, а не першага верасня? Тады слухайце.**

У нашай школе ёсць адна традыцыя. Дакладней, іх ёсць шмат, але сёння хачу распавесці пра адну. Кожны год у канцы верасня для першакласнікаў ладзяць свята прысвячэння ў вучні.

У нас гэта было так. У суботу ў актавай зале школы сабраліся бацькі. І не толькі бацькі. Яшчэ бабулі, дзядулі, браты і сёстры. Гледачоў, напэўна, было значна больш, чым галоўных герояў свята.

Займаць нам дазволілі толькі апошнія рады, бо большую частку залы пакінулі для першакласнікаў. Сёлета шэсць першых класаў. У большасці з іх па 30 чалавек. Усяго атрымоўваецца каля 180.

Некаторыя бацькі прынеслі для сябе дзіцячыя крэселцы з класаў, а некаторым прыйшлося пастаяць (свята не было зацягнутым). Мы прыйшлі раней, таму паспелі заняць месцы на апошнім радзе.

Першакласнікі нам патанцавалі, пачыталі вершы, на ўсе свае 180 галасоў праспявалі песенькі. У знак таго, што іх нарэшце прысвяцілі ў вучні, атрымалі яркія значкі першакласніка. Кажучы пафасНай мовай, адчулі ўсю важнасць моманту.

Што яшчэ запомнілася з падзей двух апошніх тыдняў? Класная гадзіна "Нашы захапленні". Настаўніца прапанавала вучням прынесці сямейныя альбом з фотаздымкамі і яшчэ штосьці, што ілюстравала б захапленне сям'і.

Альбом мы паклалі адразу. А вось што рабіць з захапленнямі? Крыжыкам не вышываем, з бісеру не пляцём, а малюнкі нашы зусім не канкурэнтаздольныя.

Але мама па сваіх журналісцкіх справах часам адна, а часам з сям'ёй бывае ў розных цікавых месцах і прывозіць адтуль сувеніры. Чым ні захапленне?

Узялі пластыкавы латок, склалі ўсе магніцікі-фігуркі-цікавосткі і панеслі ў школу. Праўда, пару разоў прарэпеціравалі, пра якую фігурку што распавесці.

Гэтага глінянага смоўжыка старэйшая сястра прывезла з керамічнага завода ў Радашкавічах. Гэты лапаць-магніт набылі ў Хатыні.

Мяккага коціка выйгралі ў бяспройгрышную латарэю, калі на 9 мая ездзілі ў Забродзе. Амаль 300-гадовую шкляную кроплю маме падарылі археолагі. Магніт з Віцаўтам – памяць пра рыцарскі фестываль у Вілейцы.

А гэты кавалачак сцяны з маленькіх цаглінак – падарунак **Сяргея Бандарэнкі** – майстра са Смаргоншчыны, што робіць у сваім двары копію Крэўскага замка.

Па словах настаўніцы, дзецям спадабалася. Потым кожны маляваў у сваім альбоме той сувенір, які запомніўся. Большасць упадабала кавалачак сцяны ад копіі замка. А настаўніца зрабіла выснову, што мама Варвары "не вылазіць" з камандзіровак.

Настаўніца прыходзіла да нас у госці. Варвара распавяла ёй, якія мульцікі глядзіць, паказала цацкі і кніжкі. Прадэманстравала ўменне чытаць. І з фразай "а гэта мама толькі што з Кіева прывезла" паказала чарговы сувенір.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечне правялі моладзевы форум "Час жыць"

МАЛАДЗЕЧНА

Што робіць мяне жывым? На такое пытанне павінны былі адказаць удзельнікі адкрыцця штогадовага моладзевага творчага форуму "Час жыць".

Адказы пісалі на прапанаваных папяровых фігурках і прымацоўвалі да імправізаванай аркі. Аказалася, што крыніцы жыцця ў маладых людзей вельмі розныя.

У адных – ежа, у другіх – творчасць, вершы, музыка, а ў кагосьці – Наташа.

Пасля адкрыцця ўдзельнікі форуму – навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў горада – размясціліся па залах і кабінетах. Тут пачалі працаваць майстар-класы.

Частка маладых людзей рушыла ў танцавальную залу.

"Сапраўднае снабачанне" – так называўся майстар-клас, які ладзіла тут **Вольга Бандарэнка.**

– Увага да сноў у людзей сёння вельмі вялікая, – лічыць псіхолаг. – Нездарма разнастайныя соннікі выдаюць вялікімі тыражамі.

Па словах Вольгі, як па кроплі крыві, што бяруць на аналіз, можна даведацца пра здароўе чалавека, так па сне можна даведацца пра яго жыццё.

Ва ўдзельнікаў адразу з'явіліся пытанні да Вольгі. Чаму некаторыя свае сны мы раніцай памятаем, а некаторыя – не? Чаму ёсць сны, якія паўтараюцца або маюць працяг з ночы ў ноч?

На некаторыя пытанні ў спецыяліста адказу не знайшлося. Аднак сярод удзельнікаў аказаліся людзі, якія змаглі растлумачыць прысутным пра фазы доўгага і кароткага сну. Пра тое, што снабачанні бываюць толькі падчас кароткага сну. Калі мы прачынаемся ў гэты момант, тады сон запамінаецца.

У малой зале псіхолаг **Арцём Зайцаў** гутарыў з навучэнцамі каледжаў пра матывацыю дасягнення. Сустрэча пачалася з пытання: для чаго вы вучыцеся?

Пасля невялікага задумення, хтосьці назваў грошы, хтосьці магчымасць атрымаць дыплом, а пасля – працу.

На наступнае пытанне адказвалі больш актыўна. Што вы зробіце, калі ў вас будзе дзесяць рублёў? Паем. Прагуляю. Набуду долары.

А калі трыццаць рублёў? Аддам даўгі. Куплю адзенне. Зраблю татуіроўку. Набуду долары. А пяцьдзясят тысяч?

Што рабіць з такім багаццем, не ведаў ніхто. І толькі адна ўдзельніца адказала, што, каб мела такія грошы, адкрыла б сваю справу па арганізацыі святаў.

Па словах Арцёма, варта часцей уяўляць сябе паспяховым, каб уяўленні матэрыялізаваліся ў жыццё.

А на першым паверсе працавалі пачынаючыя мастакі. Майстар-клас "Сакрэты партрэта" для іх ладзіла мастачка **Алена Кучко**.

Удзельнікі вучыліся маляваць аўтапартрэт. Алёна Кучко перакананая: каб добра намаляваць партрэт, варта любіць сябе. Таму акрамя прафесійнага самаўдасканалення, у майстар-класе былі і псіхалагічныя моманты.

– Прыгадайце, калі вы самі сабе падабаліся, – настройвала ўдзельнікаў на працу мастачка, – або паглядзіце на сябе мамінымі вачыма. Ёй жа вы заўсёды падабаецеся.

Увечары мерапрыемствы форуму завяршыў жыццесцвярджальны моладзевы канцэрт і дыскатэка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№40)

- Імя, прозвішча
- Дата нараджэння
- Клас
- Школа
- Населены пункт
- Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
- Прадмет, за які атрыманая адзнака
- Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")
- Дата атрымання адзнакі __
- Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка
- Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам
- Подпіс настаўніка




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.**
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• ВАЗ-2121 НІВА. Т. (8-029) 2693528, 735044.

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• ДЭУ-Нубіра, седан, 1997 г.в, 1,6 бензін, добры стан, 3400 руб. Т. Лайф (8-025) 6048677.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д. 9, кв. 56, 5 паверх, агульная плошча 27,6, жылая 16,9, цана дагаворная. Т. (8-01771) 27990, (8-029) 2534684 Ганна.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, навабудоўля. Т. (8-033) 6626858.*

• 2-павярховы цагляны дом у Вілейцы, з гаспадарчымі пабудовамі, 11,5 соткі зямлі. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16 з добрым рамонтам.Т. (8-029) 1590102.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне на першым паверсе, плошча 31,4/42,7, без пасярэднікаў. Т. (8-029) 6188711.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Тэрмінова. Цана дагаворная. Т. (8-033) 6801320.

• 4-пакаёвая кватэра палепшанай планіроўкі ў цэнтры Маладзечна, 103,5 кв.м, кухня 13,5 кв.м. Т. (8-029) 6462051.*

• Будынак нежылы ў Смаргонскім раёне, Вішнеўскі с/с, в. Малінаўка, 336,4 кв. м, 1,8027 га. Цана дагаворная. Т. (8-025) 9458763.

• Гараж ГБК-Ізбіна (каля АЗС), 4200 рублёў. Т. (8-029) 2375721.*



• Гараж у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 5604815.*

• Дом 184 кв. м, 2 км ад Смаргоні. Усе пытанні па тэл. (8-029) 2053764, (8-029) 9658737.

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне па вул. Галіцкага, 2. Тэлефанаваць з 16:00 да 21:00. Т. Вэлком (8-029) 6091158.*

• Дом у в. Людвінова. Т. (8-033) 6698067.

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у вёсцы Няверы Мядзельскага раёна, 0,20 га. Т. (8-029) 6205966.*

• Дом у Вілейскім раёне. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*

• Дом у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7039162.*



• Дом, 18 км ад Вілейкі. Тэрмінова. Т. (8-029) 8598747.*

• Катэдж 144,8 кв. м у а/г Выверы Маладзечанскага раёна, сучасны, 100 % гатунку, газ, усе камунікацыі, гараж, 0,23 га, з мэбляй. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-029) 1560340.*

• Зруб памерам 5,5 х 5,6 м, даўжыня 0,18 м. Цана 1400 рублёў. Т. (8-029) 3557654.*

• Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. МТС (8-029) 2852295.*

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру сям'і ў Вілейцы, раён завода "Зеніт". Т. Вэлком (8-044) 5763029, МТС (8-029) 2589381.*

• 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін. Макаўе. Т. (8-029) 8505995.

• Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*

• Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вядучая на свята. Т. (8-033) 6228417.

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*






# Віляйчанін атрымаў польскі медаль

ВІЛЕЙКА

27 верасня польскі амбасадар **Конрад Паўлік** узнагародзіў віляйчаніна **Дзяніса Канецкага** медалём Pro Patria.

– Узнагароджанне адбылося ў час цырымоніі перапахавання польскіх памежнікаў у Даўгінаве, – распавёў "РГ" краязнаўца, старшыня філіяла таварыства "Ахова помнікаў Беларусі" Дзяніс Канецкі.

Па яго словах, на перапахаванні ў Даўгінаве было каля 30 чалавек з Польшчы, а таксама прадстаўнікі Польскага пасольства ў Беларусі.

Тут перапахавалі пяць службоўцаў польскага Корпуса аховы памежжа. Пасля жалобнай імшы 26 верасня ў касцёле ў Даўгінаве польскія вайскоўцы разам з аркестрам перанеслі парэшткі загінулых жаўнераў КАП на мясцовыя могілкі.

Урачыстасці завяршылі супольную працу польскага Інстытута нацыянальнай памяці і 52-га эксгумацыйнага батальёна беларускіх Узброеных Сіл.

Пахаваныя жаўнеры загінулі падчас баёў з Чырвонай Арміяй за абарончую вежу "Пагост" 17 верасня 1939 года, дзе былі пахаваныя ў калектыўнай магіле.

Медаль Pro Patria, якую атрымаў Дзяніс Канецкі, даюць за асаблівыя заслугі па ўмацаванні і захаванні памяці пра барацьбу польскага народа за незалежнасць Польшчы ў часы і пасля Другой сусветнай вайны.


Фота з архіва "РГ".

Дзяніс Канецкі.

Дзяніс Канецкі быў абраны чытачамі "РГ" "Асобай года-2014".

**Аддзел інфармацыі.**

# Паважаныя чытачы!




**Чыгунка – гэта зона павышанай небяспекі, дзе галоўным траўмуючым фактарам быў і застаецца наезд рухомага саставу, высокае напружанне ў кантактным провадзе. Таму знаходжанне людзей у зоне чыгункі можа быць смяротна небяспечным.**

Але ёсць людзі, якія, гледзячы на плакаты, што прапагандуюць Правілы бяспекі грамадзян пры знаходжанні ў зоне павышанай небяспекі, усё роўна працягваюць іх парушаць.

Больш за ўсё здзіўляе тое, што так робяць дарослыя, якія падаюць прыклад сваім дзецям і ўнукам, забываючыся, што, у канчатковым выпадку, яны рызыкуюць жыццём.

Дзіцячы траўматызм выклікае асаблівую трывогу ва ўмовах развіцця высакаскораснага руху. Дзеці ж не заўсёды могуць ацаніць рэальную небяспеку. Грэбуючы забаронай, некаторыя з іх усё роўна ідуць на чыгуначныя пуці, чапляюцца за аўтасчэпкі і падножкі вагонаў.

> Свавольства не застаецца беспакараным, дзеці атрымоўваюць траўмы рознай цяжкасці і, як правіла, застаюцца інвалідамі.

У першым паўгоддзі 2017 года на Мінскім аддзяленні Беларускай чыгункі зафіксаваны 29 выпадкаў траўмавання грамадзян, якія не звязаныя з вытворчасцю (супраць 29 у 2016 годзе). Колькасць пацярпелых склала 30 чалавек (супраць 29 у 2016 годзе), з іх смяротна траўмаваныя 17 чалавек (19 у 2016 годзе).

З 29 выпадкаў траўмавання грамадзян 13 выпадкаў адбыліся на перагонах, 16 – на станцыях і прыпыначных пунктах. Сярод пацярпелых былі людзі рознага ўзросту.

Усе выпадкі траўмавання грамадзян адбыліся таму, што людзі не выконвалі правілы знаходжання на чыгуначных пуцях і з-за ўласнай безадказнасці і неасцярожнасці ў зоне павышанай небяспекі паблізу чыгункі на перагонах і станцыях.

Аналіз няшчасных выпадкаў з людзьмі, якія не звязаныя з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай. І гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам і жывуць паблізу чыгункі.

## ПРАВІЛЫ БЯСПЕКІ НА ЧЫГУНАЧНЫМ ТРАНСПАРЦЕ:

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, па насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўстаноўленыя ўказальнікі "Пераход праз пуці".

2. Калі пераходзіце пуці па пешаходным насціле, перш пераканайцеся, ці не рухаецца цягнік, лакаматыў.

3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, прадоўжыце пераход.

4. Калі падыходзіце да чыгуначнага пераезда, то ўважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаума.

Пры яго адсутнасці, перш чым перайсці пуці, пераканайцеся, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў ці вагон.

5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце толькі пасля поўнага спынення цягніка, з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА :**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.

2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад цягніком, які рухаецца і калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.

3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго напрамку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка на сустрэчным напрамку.

4. Выходзіць з вагона на міжпуцці і стаяць там пры праходзе сустрэчнага цягніка.

5. На станцыях і перагонах падлазіць пад вагоны і пералазіць праз аўтасчэпкі для праходу праз пуці.

6. На электрыфікаваных участках набліжацца да не абгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ), падымацца на электраапоры.

7. Набліжацца да электраправаду, які ляжыць на зямлі, бліжэй за 8 метраў.

8. Праходзіць уздоўж чыгуначнага пуці бліжэй за 5 метраў ад крайняй рэйкі.

9. Падлазіць пад закрыты шлагбаўм на чыгуначным пераездзе, а таксама выходзіць на пераезд, калі шлагбаўм пачынае закрывацца.

10. Ездзіць на дахах, падножках, пераходных пляцоўках вагонаў.

11. Высоўвацца з вокнаў вагонаў і дзвярэй тамбураў пры руху цягніка.

12. Заходзіць за лінію бяспекі ля краю пасажырскай платформы.

13. Скакаць з платформы на чыгуначныя пуці.

14. Наладжваць на платформе розныя рухомыя гульні.

15. Праходзіць па чыгуначных мастах і тунелях, якія не прыстасаваныя для пераходу пешаходаў.

16. Бегчы па платформе побач з вагонам цягніка, які прыбывае ці адыходзіць, а таксама знаходзіцца бліжэй за 2 метры ад краю платформы падчас руху цягніка без прыпынку.

17. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.

18. Перавозіць у вагонах лёгказгаральныя і выбуховыя рэчывы.

19. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовых і далёкіх шляхоў зносін.

Паважаныя чытачы газеты! Мы хочам усім вам пажадаць здароўя, каб вы заўсёды выконвалі правілы паводзін на чыгуначных пуцях.

Каб не падвяргалі сваё жыццё і навакольных людзей небяспецы, не праходзілі міма дзяцей, якія парушаюць правілы паводзін на аб'ектах чыгуначнага транспарту. Дзякуй!

**Маладзечанская дыстанцыя пуці.**

УНП 600199567




Пётр Краўчанка, справа, паказвае, як будзе выглядаць шыльда Кірылу і Мяфодзію са словамі ўдзячнасці ад беларускай грамадскасці. Злева – Рыгор Сарока.

# 6500 кіламетраў шляхамі знакамітых землякоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Дабрачынны фонд "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" і Беларускі фонд культуры рэалізуюць міжнародную праграму "Шляхамі Францыска Скарыны: да 500-годдзя выдання Пражскай Біблії".**

Ад 8 да 18 кастрычніка члены дэлегацыі наведаюць Кракаў, Прагу, Падую, Венецыю, Фларэнцыю і Рым.

Усе гэтыя гарады звязаныя з асобамі Францыска Скарыны і Міхала Клеафаса Агінскага і стваральнікаў кірылічнай азбукі – Кірылы і Мяфодзія. Маршрут складзе прыкладна 6 тысяч 500 кіламетраў. У сталіцы Італіі ў базіліцы Святога Клімента будзе ўстаноўленая мемарыяльная дошка аўтарства беларускага скульптара **Валерыя Янушкевіча** ў гонар святых роўнаапостальных братоў Кірыла і Мяфодзія.

Напярэдадні падарожжа ў беларускім таварыстве сяброўства з замежнымі краінамі адбылася прэс-канферэнцыя, якую зладзілі кандыдат гістарычных навук, прафесар, палітычны і грамадскі дзеяч **Пётр Краўчанка**, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Агінскага, старшыня праўлення фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага", заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь **Рыгор Сарока** і старшыня апякунскага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" **Тадэвуш Стружэцкі.**

Пётр Краўчанка расказаў, што маршрут абраны невыпадкова. У Кракаве дэлегацыя ўскладзе кветкі да мемарыяльнай шыльды ў гонар Францыска Скарыны, на наступны дзень кветкі будуць ускладзеныя да помніка Францыску Скарыны ў Празе.

> – Пакуль не знойдзеная магіла Францыска Скарыны, – распавёў Пётр Краўчанка, – помнік у Празе з'яўляецца сімвалічнай магілай нашага першадрукара.

Там, ля Падуанскага ўніверсітэта, дзе пастаўлены помнік, ёсць зямля з Полаччыны, якую прывезлі сюды ў 90-х гадах. І для кожнага свядомага беларуса Прага – гэта культурная Мекка, як Вільня і як Полацк.

Падчас візіту ў Прагу беларуская дэлегацыя перадасць у падарунак Падуанскаму ўніверсітэту ўнікальнае факсімільнае 20-томнае выданне "Біблії" Францыска Скарыны. Да выдання спрычыніўся "Банк БелВЭБ".

> – Сабекошт гэтай кнігі складае прыкладна 5 тысяч долараў, – расказаў Пётр Краўчанка.

Пасля гэтага дэлегацыя накіруецца ў Фларэнцыю. Там, у нацыянальным пантэоне Італіі, які мае назву Санта Крочэ, дзе пахаваны Міхал Клеафас Агінскі, дэлегацыя ўскладзе кветкі да магілы кампазітара. Там жа будзе зладжаны мемарыяльны канцэрт.

Пасля гэтага дэлегацыя накіруецца ў Рым.

– Мы са скульптарам Валерыем Янушкевічам у 1996 годзе выпадкова зайшлі ў храм, які месціцца ў цэнтры горада, працягвае Пётр Краўчанка, – і нечакана ўбачылі, што ў гэтым храме пахаваны Кірыл, адзін з братоў стваральнікаў кірылічнай азбукі. Як вядома, кірылічнай азбукай карыстаюцца сем славянскіх народаў, а таксама шэраг краін неславянскіх. У катакомбах гэтага храма мы ўбачылі шыльды з падзякамі за азбуку ад усіх краін, дзе карыстаюцца кірыліцай: мазаіку, бронзавыя скульптуры, скульптуры з мармуру. Ад усіх краін, акрамя Беларусі.

Валер Янушкевіч зрабіў 75-кілаграмовую шыльду і падчас вандроўкі яе перададуць у храм у Рыме.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі паабяцалі, што пасля вяртання з паездкі абавязкова раскажуць, як прымалі дэлегацыю беларусаў на шляхах знакамітых землякоў.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

## У гонар юбілею Харашэвіча зладзілі выставу, плануюць усталяваць памятную шыльду

МАЛАДЗЕЧНА

Выстава "Край мой родны, край мой мілы..." у гонар 90-годдзя з дня нараджэння маладзечанскага мастака **Кастуся Харашэвіча** праходзіла ў Палацы культуры ад 20 верасня да 6 кастрычніка.

На адкрыцці вернісажу прысутнічалі мастацтвазнаўца **Таццяна Гаранская**, сябры Саюза мастакоў **Аляксандр Грышкевіч**, **Рыгор Мяжуеў**, **Мікола Аўчыннікаў**.

Па словах дырэктара Палаца культуры **Святланы Сарокі**, плануецца ўсталяваць Ганаровую дошку на доме, дзе жыў мастак.

У экспазіцыю ўвайшло 25 работ заснавальніка студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Маладзечне. Большая частка з іх – пейзажы з выявай прыгожых куткоў роднага краю (Гарадок, Яхімоўшчына, Дубрава, Гальшаны) і замежжа (Паланга, Вільня). Таксама былі партрэты яго бацькоў, настаўнікаў, сяброў, дзеячаў культуры і гісторыі Беларусі, такіх як **Кастусь Каліноўскі**, акадэмік астранаўтыкі **Барыс Кіт**, гісторык **Мікола Ермаловіч**, паэтэса-лагерніца **Ларыса Марозава** і іншыя.

– Кастуся Іванавіча я ведала як чалавека інтэлігентнага і глыбокага. Яго ні з кім не зблытаеш, гэта мастак, які меў свой твар, – адзначыла наведніца выставы **Марыя Собаль**. – У яго пейзажах я пазнаю родныя мясціны. А партрэты – гэта своеасаблівыя манументы нашых гістарычных асоб.

Канстанцін Харашэвіч – знакавая фігура ў гісторыі беларускага жывапісу, напісаў больш за 500 палотнаў.

**Арына ВЯРХОЎСКАЯ,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

## Маладыя кампазітары СНД зноў сустрэліся ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

III Міжнародны сімфанічны семінар-форум для маладых кампазітараў, выканаўцаў і музыказнаўцаў праходзіў у Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжы імя Агінскага ад 26 верасня да 1 кастрычніка.

Сустрэча музыкаў была заснаваная Расійскім музычным саюзам, Міжнароднай асацыяцыяй маладых кампазітараў, выканаўцаў і музыказнаўцаў "МеждународМолОт" (міжнароднае моладзевае аддзяленне).

– Наша мэта – забеспячэнне сувязі пакаленняў кампазітараў, абмен досведам, павышэнне кваліфікацыі маладых музыказнаўцаў. У гэты раз форум доўжыўся не дзесяць дзён, а ўсяго пяць, але на якасці і колькасці твораў гэта не адбілася, – паведаміў сакратар праўлення беларускага таварыства сучаснай музыкі **Аляксей Пілатаў**.

Галоўнае адрозненне ад мінулага форуму – адсутнасць выразна акрэсленай тэматыкі твораў. Кожны кампазітар напісаў музыку, звязаную з яго малой радзімай. Гэта, як кажуць арганізатары, даволі цікавы мультыкультурны досвед, бо форум сабраў удзельнікаў з Алтайскага краю, Урала, Башкірыі, Татарстана і іншых мясцін.

Навіной стала аб'ява аб наборы вольных слухачоў. Зацікаўленыя ва ўзросце ад 16 да 35 гадоў маглі прыехаць і паўдзельнічаць у адукацыйнай праграме, паглядзець, як пішуць музыку, як адбываецца непасрэдны кантакт з аркестрам. Слухачамі адкрытых лекцый сёлета сталі навучэнцы Гродзенскага і Лідскага каледжаў.

Новаўвядзеннем было і тое, што кампазітары, якія прайшлі адбор на семінар, былі падзеленыя на катэгорыі "А" і "Б" – у залежнасці ад іх узросту і ступені прафесійнай падрыхтоўкі.

Праграма форуму ўключала ў сябе шэраг тэматычных лекцый, майстэрняў, а таксама рэпетыцый з сімфанічным аркестрам. Сваім досведам падзяліліся ўжо знаёмыя і новыя прафесіяналы з Масквы **Яраслаў Судзілоўскі**, **Марк Пякарскі**, **Вольга Бачыхіна**.

– Семінар пашырае свядомасць сучаснага кампазітара, што і было адлюстравана ў тэмах адпаведных лекцый і майстэрняў. Я быў прыемна здзіўлены зацікаўленасцю і ініцыятыўнасцю дырэктара каледжа **Рыгора Сарокі**, – падзяліўся ўражаннямі **Віктар Зіноўеў** (Уфа), студэнт другога курса Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Чайкоўскага.

Творы, напісаныя ўдзельнікамі форуму, прагучаць на IV семінары ў маі 2018 года.

**Мікіта АНДРЫЕВІЧ,**
**навучэнец школы журналістыкі "Маладзік".**

# Аляксандр Дзяруга: чалавек, што любіць музыку, дзяцей і кветкі

СМАРГОНЬ

**Напэўна, толькі з цягам часу даеш нейкую пэўную ацэнку тым ці іншым падзеям, таму ці іншаму чалавеку, якія прайшлі праз тваё жыццё і пакінулі свой след.**




У маёй памяці Аляксандр Анісімавіч застаўся на ровары, што без верхняй гарызантальнай рамы, з мяккім шырокім сядлом на спружынах, бо на такім ровары, як на самакаце, можна было хуценька дабірацца ў розныя мясціны горада.

Ён добра ведаў моладзь і запрашаў у свой аматарскі калектыў, што працаваў пры Доме культуры. Быў цымбальны аркестр і аркестр народных інструментаў, што іграў у ансамблі імя Агінскага, і гэта было вялікае духоўнае багацце смаргонскага краю.

Агляды мастацкай самадзейнасці – раённыя, абласныя, рэспубліканскія – гэта цэлая галерэя паездак, дзе дзецям было выключна цікава, яны ездзілі з задавальненнем. Але трэба сказаць, што і шмат энтузіязму меў Аляксандр Анісімавіч. Нярэдка выязджалі ў вёскі і там давалі канцэрты мясцовым жыхарам. А гэта і гумарэскі, і вершы, і спевы салістаў ці дуэтаў, танцавальныя нумары, ну і, вядома, цымбалісты, а як жа, смаргонскі каларыт, цяпер бы сказалі брэнд.

Такія паездкі здзяйсняліся на грузавой машыне з пераездамі ў кузаве. Але ніхто ні скардзіўся, а з тым жа энтузіязмам рабілі сваю пачэсную справу – неслі культуру насельніцтву.

На адным з аглядаў у Гродне я іграў на балалайцы як саліст і атрымаў за гэта ў падарунак фотаапарат. А калі аркестр атрымліваў перамогу на аглядзе, гэта было вялікае свята. Тут і я зрабіў свой унёсак і ў 1963 годзе паставіў усе цымбалы аркестра (25 штук) на металічныя ножкі , а потым і фабрыка ў Барысаве пачала выпускаць інструменты на ножках, скапіраваўшы мой варыянт. Ганаруся гэтым.

Што датычыць фотаапарата і фатаграфавання. Наш кіраўнік меў яшчэ нямецкі фотаапарат і пастаянна рабіў здымкі і аддаваў іх дзецям, бацькам і ніколі не браў капейку, хоць плёнкі, папера, хімікаты каштавалі немалых грошай. Таму мы і цяпер маем магчымасць узгадаць гісторыю Смаргоншчыны і свайго дзяцінства праз здымкі, зробленыя Аляксандрам Дзяругам.

Сотні дзяцей прайшлі праз яго выхаванне, і сёння мы ўспамінаем гэтага чалавека як вялікага педагога-музыку, духоўнага настаўніка моладзі, які пакінуў у кожнага свайго вучня важны і патрэбны чалавеку фактар – любіць прыгожае, умець гэтаму радавацца і несці дабрыню людзям.




Аляксандр Дзяруга са сваімі вучнямі. Злева – мемарыяльная дошка Аляксандру Дзяругу, якую зрабіў Уладзімір Церабун.

У яго кішэні чамусьці заўсёды былі цукеркі, і ён з задавальненнем іх раздаваў дзецям.

Раскажу яшчэ пра адну цікавую ініцыятыву Аляксандра Анісімавіча. Я ўжо ўзгадваў, што быць мабільным яму дапамагаў ровар, і гэта было вельмі важна. І вось кожны год маэстра аб'язджаў вуліцы горада, наглядаў, хто і як вырошчвае кветкі, запісваў назвы вуліц, нумары дамоў, а крыху пазней, калі кветкі набіралі сваю прыгажосць, аб'язджаў зноў. Знаёміўся з гаспадыняй, фатаграфаваў яе сярод кветак, запісваў прозвішча. Затым рыхтаваў спісы і перадаваў у райвыканкам. Там рыхтавалі канверты з невялікімі граматы і ў вызначаны дзень і час запрашалі ўдзельнікаў на свята. Напярэдадні яго ўдзельнікі рыхтавалі выставу з кветак і фотаздымкаў гаспадынь.

Гучыць у клубе духавы аркестр пад кіраўніцтвам **Сяргея Паўлавіча Кар'янскага**, збіраюцца ўдзельнікі і госці. У клубе ўсё ў кветках. Людзі ў захапленні ад такой колькасці розных кветак і пахаў. Свята пачынаецца. Агучваюцца пераможцы, удзельнікаў кожнага паасобку запрашаюць на сцэну.

У гэтым спісе аднойчы аказалася і наша маці, яна па-сапраўднаму любіла вырошчваць кветкі, але для мяне гэта было нечаканасцю. У канверце было пяць рублёў. Вядома, грошы невялікія, але колькі ж радасці і павагі да гэтых людзей было выказана са сцэны кіраўнікамі горада і арганізатарамі.

Такое свята мог зрабіць толькі чалавек, які шануе сваю родную зямлю і любіць тых людзей, што яе ўзбагачаюць.

Ужо маючы багата гадоў, Аляксандр Анісімавіч, як часавы, заўсёды нёс вахту догляду за парадкам на танцпляцоўцы, што была ў парку і дзе ў суботу і нядзелю весялілася моладзь.

Казалі, што ў паліклініцы нават не было медыцынскай карткі на яго прозвішча, бо ён туды ніколі не звяртаўся. Аляксандр Анісімавіч жыў з моладдзю і таму, відаць, не старэў.

Я проста абавязаны быў увекавечыць ганаровую памяць пра выдатнага чалавека і зрабіць мемарыяльную дошку. Мы сабралі подпісы ад былых удзельнікаў ансамбля імя Агінскага, а таксама свой подпіс паставіў і народны артыст СССР маэстра **Віктар Роўда**.

Смаргонскі райвыканкам падтрымаў ініцыятыву, і сёння такая мемарыяльная дошка ўсталяваная на адным з будынкаў горада. На нотным стане напісаны ўрывак з "Паэмы" З.Фібіха, апрацоўку для цымбалаў зрабіў Аляксандр Анісімавіч.

Гэты твор з цеплынёй сустракалі гледачы, заўсёды шчыра і душэўна выконвалі музыкі. Тая мелодыя і цяпер нагадвае нам пра багатае і шчаслівае дзяцінства.

**Уладзімір ЦЕРАБУН, скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.**

# Крулеўшчына ці “Крулевщизна”:

## чаму назва чыгуначнай станцыі настолькі адрозніваецца па-беларуску і па-руску

**Некалькі месяцаў таму на будынку вакзала ў мястэчку Крулеўшчына Докшыцкага раёна павесілі шыльду з надпісам “станцыя Крулеўшчына”. Дагэтуль вісела шыльда “станция Крулевщизна”.**


Фота photo.gask.ru

Імператар Мікалай II абыходзіць строй ганаровай варты 7-га Сібірскага корпуса на пероне станцыі “Сеславино”. 7 лютага 1916 года (21 лютага па грыгарыянскім календары).

Доўгія гады з гэтай “Крулеўшчынай-Круляўшчызнай” была дзіўная сітуацыя. Назва мястэчка і назва чыгуначнай станцыі адрозніваліся на адну літару. А ўвогуле, станцыя змяняла назву некалькі разоў за сваю гісторыю.

Я нарадзіўся і правёў дзяцінства ў Крулеўшчыне. Малы, назіраў за рухам цягнікоў ды цікавіўся тым, што было на станцыі раней – калі яна будавалася, як называлася, якія чыгуначныя злучэнні мела. Здаецца, з таго і нарадзілася мая цікаўнасць да гісторыі і ўвогуле да навакольнага свету. Таму і гісторыю Крулеўшчыны і таго, як змянялася яе назва, вывучыў падрабязна.

### Хрулеўшчына і Сеславіна

Калі ў 1902-1906 гадах будавалася Балагое-Сядлецкая чыгунка, станцыя была названая “Крулевщина”. Назва станцыі была запазычаная ад аднаго з навакольных засценкаў, які ў крыніцах 1784 года згадваецца як “Chrulewszczyzna”, г.зн. Хрулеўшчына, а на карце-“трохвярстоўцы” 1865 падпісаны “Крулевщизна”.

На станцыі быў збудаваны вакзал паводле тыповага праекта, па якім будавалі вакзалы на станцыях IV класа ад Полацка да Седляца. Многія з тых вакзалаў былі перабудаваныя ў 20-я гады ХХ стагоддзя (Княгінін, Вілейка, Баданаў, Юрацішкі) або, як вакзал у Крулеўшчыне, знішчаныя падчас Другой сусветнай вайны. Пачатковы выгляд найлепш захавалі вакзалы на станцыях Гаўя (Іўеўскі раён) і Загацце (Глыбоцкі раён).




У 1912 годзе Расійская імперыя святкавала стагоддзе вайны з Напалеонам. Юбілей зрабіў адбітак у чыгуначнай тапаніміцы. Ціперашнюю станцыю Ваўкавыск-Цэнтральны назвалі “Багратионовская” ў гонар аднаго з палкаводцаў. 18 красавіка 1914 года назва станцыі “Крулевщина” была замененая на “Сеславино”, у гонар расійскага генерал-лейтэнанта Аляксандра Сяславіна, удзельніка ваеннай кампаніі 1812 года.

### За польскім часам

У час нямецкай акупацыі ў 1918 годзе назва станцыі пісалася “Seslawino”. У лістападзе 1918 года Крулеўшчыну занялі бальшавікі, а ў жніўні 1919 года – палякі. Палякі адразу сталі ўжываць пачатковую назву станцыі, але ў польскай версіі – “Królewszczyzna! Падобна, што не было нават афіцыйнага загаду аб перайменаванні, бо "Spis zmienionych nazw polskich stacyj kolejowych", які зафіксаваў нават змену напісання Parafjanowo на Parafjanów і Podświlje на Podświle, нічога не згадвае пра Крулеўшчыну.

У канцы 1919 ці пачатку 1920 года Крулеўшчына атрымала прамое чыгуначнае злучэнне з Вільняй. Для гэтага была выкарыстаная траса прыватнай вузкакалейнай чыгункі Новыя Свянцяны-Глыбокае і лініі, збудаваныя расійцамі і немцамі падчас Першай сусветнай вайны. Крулеўшчына стала вузлавой станцыяй і сядзібай чыгуначных службаў. Вакол станцыі стала расці мястэчка, насельніцтва якога з 1921 да 1938 года павялічылася з 245 да 892 жыхароў. У Крулеўшчыне збудавалі касцёл, двухпавярховую мураваную школу, тартак і млын, цагельню ды шмат будынкаў для чыгуначных службаў – будынкі паравознага дэпо, дарожнага аддзела, амбулаторыі, службовыя жылыя будынкі. Чыгуначнікі былі пераважна палякамі, прысланымі з этнічнай Польшчы.

### Саветы

17 верасня 1939 года Крулеўшчыну занялі Саветы. Савецкія чыгуначнікі не сталі высвятляць ні першапачатковыя, ні гістарычныя назвы – а транслітаравалі назвы станцый з польскай мовы. Гэтак на Паазер'і з'явіліся назвы станцый “Крулевщизна”, “Шарковщизна”, “Полевачe”.

Стары будынак вакзала быў разбураны падчас Другой сусветнай вайны. Новы быў збудаваны ў пачатку 1950-х. Ён узведзены паводле тыповага праекта, які прымяняўся на розных станцыях савецкіх чыгунак. Ідэнтычныя будынкі можна пабачыць не толькі на станцыях Івацэвічы, Бяроза-Картузская і Брэст-Палескі, але і, напрыклад, на станцыі Кумертау ў расійскім рэгіёне Башкірыя.

### Вярнулі першую назву

У савецкі час ранейшая гісторыя Крулеўшчыны была забытая. Мясцовыя краязнаўцы і настаўнікі лічылі, што першапачатковай назвай станцыі была “Сеславино”. А назвы “Крулеўшчына” нібыта раней ніколі не было, а яе прыдумалі ў 1921 годзе палякі, каб ушанаваць караля Стафана Баторыя, які ў 1579 годзе ішоў з войскам праз гэтыя землі. Гэтак нам, вучням, расказвалі ў школе.

У 1962 і 1990 гадах былі ініцыятывы вярнуць станцыі імя расійскага генерала. Аднак гэта не ўдалося, назву “Сеславіна” далі толькі кароткай вуліцы на ўскраіне мястэчка. А потым я пачаў вывучаць дакументы пачатку мінулага стагоддзя і высветліў: назва “Сеславино” не была першапачатковай.

Жывучы ў Крулеўшчыне, мне даводзілася дзясяткі разоў адказваць на пытанне: чаму станцыя называецца “Круляўшчызна”, калі мястэчка называецца Крулеўшчына. Цяпер ужо не давядзецца. У 2012 годзе было зацверджанае нарматыўнае напісанне станцый на беларускай мове. У раскладзе на сайце чыгункі і на табліцы ўнутры вакзала хутка сталі пісаць “Крулеўшчына”. Гэтым летам шыльду “Станцыя Крулеўшчына” прымацавалі і на будынку вакзала.

На рускай мове назва станцыі па-ранейшаму пішацца “Крулевщизна”. Аднак цяпер Беларуская чыгунка большасць інфармацыі для пасажыраў – расклады на станцыях і прыпынках, аб'явы ў цягніках, шыльды на будынках станцый – падае на беларускай мове. Таму пасажыры назву “Крулевщизна” будуць бачыць і чуць вельмі рэдка.

**Кастусь ШЫТАЛЬ,**
**“Наша ніва”.**

● КАЛЯНДАР

6 КАСТРЫЧНІКА

**1517.** У Празе **Францыск Скарына** выдаў “Прытчы Саламона”.



**1745.** Нарадзіўся **Францішак Смуглевіч** (Варшава), жывапісец, графік, педагог, які працаваў у Беларусі, заснавальнік беларускай і літоўскай нацыянальнай школы жывапісу.

**1762.** Мястэчка Мядзел атрымала самакіраванне паводле магдэбургскага права.

**1876.** Нарадзіўся **Ян Булгак**, вядомы беларускі і польскі фатограф, які значную частку сваіх прац прысвяціў Навагрудчыне і Вільні.

7 КАСТРЫЧНІКА

**1765.** Нарадзіўся **Міхал Клеафас Агінскі**, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстання 1794 года. Памёр 15 кастрычніка 1833 года ў Фларэнцыі (Італія).

**85 гадоў** з дня нараджэння **Івана Пташнікава** (1932 – 2016), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1978) за аповесць “Найдорф”, у якой распавядаецца пра барацьбу партызан і жыхароў акупаванай Беларусі супраць акупантаў.

9 КАСТРЫЧНІКА

**1920.** Генерал **Люцыян Жалігоўскі** заняў Вільню, пасля чаго абвешчана г. зв. Сярэдняя Літва.

10 КАСТРЫЧНІКА



**60 гадоў** з дня нараджэння **Леаніда Дранько-Майсюка** (1957), беларускага паэта.

**1881.** Нарадзіўся **Ян Тарчэўскі** (засценак Асінаўка, цяпер Ашмянскі раён), грамадскі дзеяч, “нашанівец”, настаўнік. Быў параднёны з Багушэвічавым родам, меў шлюб з Марыяй, дачкой Францішкавай сястры Ганны. Багушэвічаву асобу лічыў узорам служэння Радзіме, узорам грамадзянства. Доўгі час у засценку Тарчэўскага пераховўвалася Багушэвічава бібліятэка, сямейны Багушэвічаў альбом, медальёны з імёнамі святых... Пахаваны на Ашмянскіх каталіцкіх могілках паблізу капліцы.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Сонечную электрастанцыю за 810 тысяч еўра адкрылі ля Ільы

ВІЛЕЙКА

**Сонечную электрастанцыю магутнасцю 600 кілават урачыста адкрылі 28 верасня ля Ільы.**

Яна на сто працэнтаў забяспечыць "Надзею" электрычнасцю. Працуе станцыя ад жніўня. Аднак яе ўрачыстае адкрыццё запланавалі на 28 верасня.

У ліпені абсталяванне для станцыі прывезлі з Германіі, з горада Траўнштайна. Адразу рабочыя магілёўскай будаўнічай арганізацыі, што выйграла тэндар, усталявалі на полі побач з Ільёй першыя сонечныя модулі і забілі палі.

**Усю станцыю ўстанавілі за два месяцы. Яна заняла два з палова гектары.**

Вядучыя адзначылі, што два месяцы – зусім ндоўгі тэрмін. Тым больш, калі ўлічыць, што сёлетняе надвор'е ніяк не спрыяла гэтай важнай будоўлі.

– Мы гарантуем, што ўсе грошы, якія "Надзея" атрымае за продаж лішкаў сонечнай энергіі, пойдуць на далейшае развіццё цэнтра і паляпшэнне ўмоў для адпачынку і аздараўлення дзяцей, – паабяцаў дырэктар "Надзеі" **Вячаслаў Макушынскі** на адкрыцці.

### Як збіралі грошы на фотаэлектрастанцыю

28 верасня мерапрыемствы ў "Надзеі" пачаліся ад раніцы. Спачатку быў "круглы стол" па экалогіі і ўстойлівым развіцці.

Тут выступалі эксперты з Беларусі і Германіі. Пасля зладзілі экскурсію па "Надзеі".

А ў дзве гадзіны на пляцоўцы, дзе працуе станцыя, сабраліся супрацоўнікі "Надзеі", прадстаўнікі вілейскага райвыканкама і таварыства "ЗОВіК", сталічныя эколагі і журналісты, вучні і настаўнікі ільянскай школы, старшыня мясцовага сельсавета.

Былі госці з Германіі. Старшыня нямецкага фонду "Сябры "Надзеі" ў Германіі" **Астрыд Зам** заўважыла, што ў іх краіне шмат працуюць у накірунку ашчадных адносінаў да прыроды, развіваюць сельскую гаспадарку на прынцыпах экалагічнага земляробства. Таму адкрыццё станцыі для "Надзеі" вельмі цешыць нямецкіх партнёраў.

**Па словах пані Астрыд, праект падтрымалі шматлікія нямецкія арганізацыі і грамадзяне. У Германіі ўдалося сабраць каля 710 тысяч еўра. 21 тысячу далі японскія партнёры. Астатнія грошы – гэта бюджэт "Надзеі" і крэдыты, якія ўзяў цэнтр.**

Кошт станцыі на сонечных батарэях – каля 810 тысяч еўра.

### Фотаэлектрастанцыя – запозненым падарунак да дня нараджэння "Надзеі"

Пасол Беларусі ў Германіі **Пятэр Дэтмар** адзначыў, што пасля вялікага перапынку вельмі рады зноў апынуцца ў "Надзеі".

**Станцыю назваў запозненым падарункам да дня нараджэння цэнтра, які адзначалі 24 верасня.**

Вядучыя нагадалі ўдзельнікам урачыстасці, што ад 2004 года ў "Надзеі" карыстаюцца ўзнаўляльнымі крыніцамі энергіі. Тут ёсць кацёл, што працуе на трэсках, а на складзе для дроў стаяць сонечныя батарэі.

Нямецкі фізік **Вайнер Нэйман** распавёў, што катастрофа на Чарнобыльскай станцыі ў свой час вельмі змяніла яго жыццё.

У канцы 1980-х ён задумаўся пра лёс людзей, якія жывуць паблізу атамнага рэактара.

Менавіта Вайнер Нэйман стаў адным з каардынатараў праекта па ўсталяванні сонечнай электрастанцыі з нямецкага боку.




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Сябры з Германіі Альберт Ландвер і Петэр Курцэ віншуюць "Надзею" з адкрыццём фотавальтайка.

### Станцыю пабудавалі, а новых працоўных месцаў няма

Па словах вядучых, устаноўка станцыі была б немагчымай без падтрымкі мясцовага кіраўніцтва.

Ад вілейскага райвыканкама на адкрыцці прысутнічалі намеснік старшыні **Генадзь Касцевіч** і начальнік аддзела ЖКГ **Вольга Малафей.**

– Дзякуючы сонечнай электрастанцыі дзеці не толькі атрымаюць энергію. Яны змогуць назіраць, як энергія сонца становіцца электрычнай энергіяй, – адзначыў у сваім выступленні Генадзь Касцевіч.

Па яго словах, у Вілейцы шмат робіцца для развіцця экалагічнага накірунку.

У Вілейцы пры падтрымцы Еўрасаюза ладзяць шмат праектаў, накіраваных на паляпшэнне экалагічнай сітуацыі.

Летась горад падпісаў пагадненне мэраў. Цяпер тут плануюць далей развіваць роварны рух.

– Як адкрыццё станцыі паўплывае на жыццё Ільы? – запыталася я ў старшыні сельсавета **Мікалая Русака**.

– Па-першае, гэта яшчэ адзін турыстычны аб'ект, – адказаў Мікалай Вацлававіч. – Акрамя царквы і касцёла ў Ільы будзе на што яшчэ паглядзець. Па-другое, два гектары дагледжанай тэрыторыі – таксама радасць для старшыні сельсавета.

Толькі вось станцыю адкрылі, а новых працоўных месцаў не з'явілася, уздыхнуў старшыня. Але ж такія яны, сучасныя тэхналогіі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Людзі на газонах і вершы на вуліцах: чым жыве сталіца Украіны

**Энергічны брэйк-данс, вершы ўслых і некалькі соцень чалавек на майдане. Гэта не масавае гулянне. Гэта звычайны вечар у Кіеве.**

Вестку пра тое, што ў канцы верасня мы з калегамі ляцім ва Украіну, успрыняла з насцярожанасцю. А як жа? Еду ў такую неспакойную і нестабільную краіну. Там жа вайна! А ў мяне – сям'я ды двое малых дзяцей.

На трап самалёта падымацца было трывожна. Ці ад таго, што ляцела першы раз. Ці ад таго, што злятаю са стабільнай Беларусі.

У салоне побач сядзелі каларытныя іудзеі, якія ляцелі ў паломніцтва адзначаць свой Новы год. Перад дарогай яны гучна маліліся і спявалі свае песні. "Не хвалюйся, – супакоіла мяне калега, – бачыш, з намі палова самалёта божых людзей. Таму мы даляцім".

Даляцелі. Аэрапорт "Барыспаль" сустрэў прыгожай украінскай мовай і натоўпам турыстаў.

Першае знаёмства з Украінай адбывалася праз акно маршруткі. Запомніліся неверагодна шырокае пасля беларускіх рэчак Дняпро, метро, якое месцамі ідзе на зямлі, а не пад зямлёй, і спрэс украінамоўныя шыльды на крамах і ўстановах.

## Украінская кухня і трыццацігадовыя ветэраны

Наш гатэль месціўся ў цэнтры Кіева, на майдане Незалежнасці. Як нам пашанцавала з яго месцазнаходжаннем, зразумелі на працягу дня.

Па-першае, побач было шмат кавярняў з нацыянальнымі стравамі. Украінскі боршч з часночнымі пампушкамі, варэнікі з рознымі начынкамі (мне найбольш спадабаліся з вішняй), сала з часнаком.

І дзеруны або, як кажуць у нас, дранікі. Аказваецца, іх тут таксама любяць. Хаця, не. Паважаюць. Менавіта гэтым словам тут карыстаюцца ў адносінах да ежы.

Заўважыла, што ўкраінцы вельмі часта ходзяць у кавярні. У які час ні зойдзеш, аншлаг. Магчыма, таму, што ў Кіеве шмат бюджэтных варыянтаў, дзе рублі за тры-чатыры можна вельмі добра пад'есці.

А яшчэ рэстаранчыкі тут адчыняюць ветэраны антытэрарыстычнай аперацыі. Хаця, скажу шчыра, мне было нязвыкла ўжываць слова "ветэран" у адносінах да маладых мужчын.

Трыццацігадовы ветэран **Леанід Астальцаў** любіў і ўмеў гатаваць піцу яшчэ да ваенных падзей. Вярнуўшыся, зразумеў, што па-ранейшаму хоча займацца любімай справай.

Пазычыў грошы і адкрыў рэстаран. Сёння ён тут працуе сам і дае працу 13 маладым ветэранам.

## Чаму вечарам на майдане ажываюць газоны

"Так нязвыкла, што ў вашых беларускіх гарадах нічога не адбываецца," – казала неяк украінская журналістка **Ірына Зямляна**, якая летам наведала Беларусь.

Толькі апынуўшыся ў Кіеве, я да канца змагла зразумець сваю калегу з Украіны.

Кіеў. Звычайны восеньскі вечар. Не разумею, чаму на майдане некалькі соцень чалавек. Маладыя, сталыя, кампаніямі, парамі і па адным, сем'і з маленькімі дзецьмі...

Але... Бліжэй да дзевяці аднекуль з'яўляецца музыка і... пачынаецца відовішча. Струмені ўсіх фантанаў, што на плошчы, падсвечваюцца рознымі колерамі, і людзі танцуюць пад украінскія песні і сусветныя хіты.

А хто вельмі захоча паглядзець на танцы фантанаў пад сваю любімую музычную кампазіцыю, можа зрабіць замову на сайце Кіеўскай гарадской рады. Ва ўсялякім разе гэта абяцае прыемны голас перад заканчэннем фантаннага шоу ў 11 гадзін вечара.

Людзі дзівяцца на фантаны з розных месцаў. Тыя, хто не баіцца пырскаў, сядзяць на бліжэйшых бардзюрах. Нехта – на прыступках пераходаў.

А газоны ў гэты час літаральна ажываюць. На іх сядзяць і ляжаць (уявіце сабе! ляжаць!) людзі. Яны гартаюць свае гаджэты, размаўляюць, смяюцца... Цікава, а што б адбылося, калі б я лягла на газон на плошчы Незалежнасці ў Мінску?

## Што адбываецца ўвечары на Хрышчаціку

Але не толькі вячэрнім майданам уразіў Кіеў. Пераходзім вуліцу і разумеем, што да некалькіх соцень на майдане варта дадаць некалькі соцень на Хрышчаціку.

Вось дзяўчына танцуе фаер-шоу. Вось стары каларытны ўкраінец з чупрынай іграе на лютні.

А ля лавачак што за збор? А, тут малады чалавек чытае для выпадковых мінакоў **Маякоўскага** і **Мандэльштама**.

Іду далей. На прыступках нейкай установы бабулі зладзілі флэшмоб. Танцуюць пад павольную музыку, пратэстуючы тым самым супраць незаконнай трансплантацыі.

На супрацьлеглым баку таксама танцы. Прабіваюся скрозь натоўп моладзі і бачу, як энергічныя хлопцы танцуюць брэйк-данс.

Здымаю на свой планшэт тусоўку байкераў. Ступіла пару крокаў – зноў здымаю. Толькі ўжо раварыстаў. Здаецца, усё. Можна прысесці на адну са шматлікіх лавачак і зразумець, што значыць, калі на вуліцах нешта адбываецца.

На некаторых хрышчацкіх лавачках можна не проста адпачыць. Тут лёгка падзарадзіць свае мабільнікі.

Як распавялі калегі, лавачкі для падзарадкі гаджэтаў паставілі нядаўна, дзякуючы мясцовым кіеўскім актывістам і ўладам горада.

## Зайшла ў пераход і згубілася

Час вяртацца ў гатэль. Але тут праблема! Пасля спакойных сталічных падземных пераходаў у кіеўскіх губляешся. Вось так зайшла перапісці дарогу і... знікла гадзінкі на тры... А як па-іншаму?

Бо тут жа і ўпрыгажэнні, і безліч кіеўскіх сувеніраў, і цэлыя крамы вышыванага адзення, і кнігарні, і кава з ласункамі, і мастакі, што малююць партрэты. І ўсё тыя ж бюджэтныя кавярні.

Ці можа Кіеў пахваліцца чысцінёй, якой так ганарацца многія жыхары беларускіх гарадоў. Можа.

Але вось парадокс. Удзень тут даволі цяжка сустрэць дворнікаў з шуфлямі і венікамі, якія ўвесь час ходзяць і падграбаюць, дамагаючыся гэтай самай ідэальнай чысціні. Атрымліваецца, што да вечара сметніцы поўныя. А раніцай прачынаешся – і ўсё чыста.

Разгадаць загадку я змагла ў адну з цёплых кіеўскіх начэй, седзячы ў кавярні з відам на Бесарабскі рынак. Між пустых гандлёвых радоў дворнікі пачалі шчыраваць ужо пасля апоўначы.





Трэцяя лішняя ля кіеўскіх ліхтароў.





Вечарам газоны ў Кіеве літаральна "ажываюць".

## Дзе абмяняць грыўні і што за іх набыць

Што прывезці з Кіева? Тут усё залежыць ад вашых захапленняў і колькасці грыўняў, вядома. Гэту радкую валюту працэй набыць на Украіне.

У Маладзечне з грыўнямі працуе толькі адзін банк. І нават там мне не пашанцавала. Яшчэ не было пяці вечара, а ў банку, па словах супрацоўніц, ужо здалі касу. З такой самай праблемай сутыкнулася і калега з Астраўца.

А ў Кіеве мы без праблем абменьвалі валюту ў ветлівых касірак. Хтосьці з нас напоўніў чамадан украінскімі цукеркамі, не забыўшыся ў апошні дзень прыхапіць кіеўскі торцік.

Хтосьці набываў вышыванае адзенне. У Мінск у вышыванцы прыехала і я. А ў чамадане ляжалі цукеркі, магніцікі і некалькі пар шкарпэтак, таксама з вышыванкай.

Добра, што эмоцыі, прыемныя сустрэчы, новыя знаёмствы і тэмы для будучых журналісцкіх матэрыялаў захавала памяць. У чамадан яны б дакладна не ўлезлі.

Вайна? Яе за чатыры дні я адчула двойчы. Першы раз, калі ўбачыла вайскоўцаў у метро. Другі – калі на адным з будынкаў заўважыла шыльду "Штаб дапамогі фронту".

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Звязка – як яна ўчэпліваецца ў нас у жыцці і як можа дапамагчы перамагчы ў шахматах

**Люблю тлумачыць некаторыя шахматныя формулы і законы з дапамогай прыкладаў, параўнанняў, аналогій з бытавымі і жыццёвымі сітуацыямі.**

Добры дзень, мяне завуць **Віталь Качаткоў**. Пагаворым сёння пра "звязку". Да нітак шахматная "звязка" прамых адносінаў не мае, але можна ўспомніць вобраз кацяняці, што заблыталася ў клубку нітак і мае абмежаванні ў руху ў гэтай сітуацыі. Можна прывесці яшчэ такі прыклад з крэдытамі, калі чалавек набраў шмат крэдытаў, і вялікая частка даходаў ідзе на пагашэнне пазык. У гэтай сітуацыі ён звязаны крэдытамі і мае абмежаванні ў свабодзе распараджэння сродкамі. Чымсьці падобным і з'ўляецца шахматная з'ява – "звязка".

**Адсюль і мараль: калі ёсць магчымасць у шахматнай партыі – рабіце звязкі, калі вам іх ставяць – адыдзіце ад іх.**

У жыцці таксама старайцеся быць асцярожнымі са звязкамі, але сысці ад іх цалкам таксама не павінна быць самамэтай. Напрыклад, сямейныя адносіны і сувязі, абавязкі – таксама звязкі. Гэта ж не прычына іх ігнараваць і патрабаваць поўнай свабоды...

Цяпер разгледзім шахматны навучальны прыклад №109 з маёй кнігі "Мат у адзін ход".



Ход чорных. Кароль белых на g1 крыху заціснуты ў руху, яму замінае і ўласная ладдзя на h1, і чорны слон d3, які кантралюе поле f1. Задачу белым дапамагае вырашыць прыхаваная звязка: чорная ладдзя з g8 звязвае слана g2 з каралём g1. Пагля дзіце: усе фігуры – чорная ладдзя, белы слон і кароль стаяць на адной лініі g. Вертыкаль g – лінія дзеянні ладдзі, чорнай ладдзі. Таму, калі адскочыць чорны конь з g5, слон g2 будзе звязаны з каралём g1.

Задачу вырашае ход: конь б'е g3 – мат. Слон g2 не можа пабіць каня g3, таму як "звязаны" ладдзёй з g8. Разжавваў? Вельмі стараўся!

Цяпер разгледзім сітуацыю "белым позіркам". Ход белых. Тая ж дыяграма №109.

Разглядаем уважліва дошку вакол чорнага караля і заўважаем звязанага чорнага каня е6 белай ладдзёй h6. У дадзеным прыкладзе мы бачым гарызантальную звязку: ладдзя з h6 звязвае каня е6 з каралём на с6. Гэта значыць, чорны конь не можа адысці нікуды па прычыне шаха, а гэта забаронена шахматнымі правіламі. У гэтай сітуацыі вырашае ход Ф: С5. Конь з е6 не можа пабіць ферзя С5, таму што звязаны ладдзёй з h6. Спадзяюся, зразумела?

І напрыканцы некалькі задач на мат у адзін ход, якія вырашае разуменне "звязачнага" матыву. Дыяграмы з кнігі "Мат у адзін ход" Віталя Качаткова.







Усім удачы, і не трапляйце ў жыцці ў безнадзейную "звязку".



Віталь **КАЧАТКОЎ**, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.

# Аляксандр Альховік:

## Калі цешча сыграе на апярэджанне, сям'я застанецца без спартсменкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Асоба Аляксандра Альховіка ў маладзечанскім футболе заўважная. Яшчэ б! Футбаліст гуляў за каманду Маладзечна ў вышэйшай лізе, пазней у той жа вышэйшай лізе адстойваў гонар Смаргоні, гуляў у Светлагорску. А калі прыйшоў на сустрэчу, запытаўся:**



– І нашто я вам, стары, спатрэбіўся?

**– Няўжо такі стары? Што, і з футболам думаеце заканчваць?**

– Не, пакуль Дорык, ой, Сяргей Іванавіч, мне давярае, буду гуляць. Хаця ў нас была размова. Ён кажа, ну што, Саня, вазьму цябе ў памочнікі, будзеш фішкі на полі расстаўляць.

**– Вы з Дараховічам даўно знаёмыя?**

– Даўно. У "Забудове" разам гулялі, у Маладзечне. Ён мне дапамог у вышэйшую лігу трапіць у Смаргоні. Ён тады заканчваў гуляць, а я прыйшоў у каманду на яго месца. Сяргей тады размаўляў з трэнерам **Кандрацьевым**, думаю, ён яго і пераканаў, што трэба браць мяне. І да гэтага ў нас вельмі добрыя адносіны. Ён стараецца быць добрым трэнерам, трэніроўкі цікавыя, насычаныя. Канешне, Сяргей, бывае, патрабуе бегаць на трэніроўцы, а ты ўжо змену адпрацаваў, ногі папросту не бягуць. Але ён кіраўнік малады, навучыцца.

А ў камандзе Аляксандра Альховіка звязвае шматгадовае сяброўства з **Дзмітрыем Касцюком** і **Сяргеем Драздом**. Мяркуем, вы не ведалі, што Аляксандр Альховік і Сяргей Дрозд адзін адняму кумы.

– З Дроздзікам мы з дзяцінства сябры. Памятаю, як старэйшыя таварышы нам, малым, казалі: "Бярыце мяч і спіце з ім". Тады вельмі хацелася даказваць, што ты чагосьці варты ў футболе. Памятаю, закрываліся на базе і трэніраваліся, баяліся толькі, каб не выпхнулі адтуль. А цяпер што? Зробіш заўвагу маладому футбалісту, а ён табе 18 слоў у адказ.

**– Інакш кажучы, вы згодныя з думкай трэнера, што ў маладых вочы не гараць?**

– Адназначна! У пачатку сезона Іванавіч ставіў жа на мясцовых футбалістаў, прыезджыя былі толькі таму, што патрабуецца пэўны ўзрост. А потым атрымалася, не хоча **Талстой** гуляць, які ў пачатку сезона заўсёды быў у аснове. Таму, канешне, трэба думаць пра тое, кім замяніць. Я ж агульную мову магу знайсці з любым. Мне было ў першым крузе камфортна гуляць з **Шукеловічам**, цяпер з **Макаравым**. А на трэніроўках у нас сяброўская атмасфера, можам і пасмяяцца, і пагутарыць пра ўсё. А што моладзь? Сядзіць у камп'ютарах.

**– А вы не гуляеце ў футбол на камп'ютары?**

– Не. У нас па гэтых справах – Чэпа. Так і напішыце, Чэпа, гэта **Павел Галубовіч**, вось ён – чэмпіён па камп'ютарных гульнях.

**– Аляксандр, а ў вас мянушка ёсць?**

– Мяне з дзяцінства называюць Маля, бо, калі стаў гуляць у футбол, быў самага маленькага росту, потым выцягнуўся, а мянушка засталася.

**– А нумар 18 чаму?**

– Гэты нумар у мяне з'явіўся, калі за "Хімік" светлагорскі гуляў. Усё проста – у мяне дзень народзінаў 18 красавіка.

**– Аляксандр, не сакрэт, што вакол каманды сёлета многа размоў, у тым ліку скандальных. Як гэта адбіваецца на камандзе?**

– Калі вы пра канфлікт аднаго з мясцовых журналістаў і нашага дырэктара **Андрэя Іваненкі**, то ніяк. Нас, футбалістаў, гэта не датычыцца ўвогуле. Ёсць дырэктар Іваненка, мы гуляем з ім. Не – быў бы нехта іншы. Яны дарослыя людзі, хай разбіраюцца самі. У мяне сваіх клопатаў хапае, вунь, бегае мой клопат, якому год і сем месяцаў.

**– Вы пра дачку?**

– Так, пра Еву Аляксандраўну.

**– Ева, як і тата, будзе спартсменкай?**

– Хацелася б аддаць у гімнастыку. Але калі цешча сыграе на апярэджанне, можам страціць спартсменку. Цешча ў мяне выкладчыца музыкі.

**– А на футболе дачка была? Ведае, што яе тата футбаліст?**

– Так, прыходзіла на футбол, жонка кажа, што таксама крычала: "Тата!". Але я не люблю, калі блізкія прыходзяць на гульні. Бо пасля шмат парадаў, як трэба было гуляць, і шмат крытыкі, чаму не так гуляем. Я і сам ведаю, што ў некаторых эпізодах можна было згуляць лепей.

**– Вам не здаецца, што з такіх эпізодаў і складаецца агульная карціна, што каманда не на першым месцы ў чэмпіянаце?**

– Не здаецца. Гэта так ёсць на самой справе. Мы, відаць, ужо згубілі шанец трапіць у наступным годзе ў першую лігу, засталіся чатыры матчы. Мы толькі, хіба, за месца крыху вышэй можам пазмагацца. Хаця, невядома, што там будзе з Чысцю і з камандай з Жыткавічаў. А ЮАБ малайцы, магчыма, на наступны год у першай лізе з'явіцца маленькая новая кропачка. Каманда ўпершыню ў першай лізе.

**– Чаму так здарылася, што ў гэтым годзе каманда загуляла?**

– Грошы. Толькі грошы. З'явіўся чалавек, які хварэе за футбол, які можа зацікавіць футбалістаў. У іх як. Каманда перамагла – адразу футбалістам плаціць прэмію, ёсць за што пабегаць.

**– Акрамя Жыткавічаў, за якія каманды заўзееце?**

– З дзяцінства за "Манчэстэр Юнайтэд".

**– Хутка скончыцца сезон. Якія планы на зіму?**

– Працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць. Пакуль дачка маленькая, нікуды ляцець не плануем. Адзінае, што я забраніраваў сабе білет на чэмпіянат свету, які адбудзецца ў наступным годзе. Мая сястра жыве ў Светлагорску, тым, што ля Калінінграда. І я падумаў, што калі цяпер на чэмпіянат свету не трапіць, то калі ўжо тады. А жонка з дачкой, пакуль тата на футболе будзе, у моры паплаваюць.

**– А з футболам што на наступны год?**

– Пакуль Іванавіч не дасць у рукі фішкі, яшчэ пагуляем!

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

3. Штат ЗША, які празвалі "Сэрца Поўдня", таксама называюць штатам бавоўнавых плантацый, яўсянкі і яшчарак.
4. Як сярод мясцовых футбалістаў называюць фаната, які памяняў клуб?
5. Смутак, туга, бедаванне.
8. Невялікая шклянка ёмістасцю да 50 грамаў, якая асабліва патрэбная на святочных застоллях.
10. Сталіца Ямайкі.
13. Паводле міфалогіі беларусаў, бог палявой працы, восені і ўраджаю.
14. Гэты будынак ў Ракуцёўшчыне ў 2002 годзе перацярпеў падпал.
15. Выпуклая пасудзіна з вузкім горлам, плоскім дном, з адным або двума вушкамі ў Беларусі.
16. У Маладзечне яны з'явіліся ў 2002 годзе, што вельмі спрасціла разліковыя аперацыі.
18. Пісьмовы або вусны даклад, данясенне.
19. Частка тэксту або асобныя словы, літары ці іншыя знакі, напісаныя або надрукаваныя ў адну лінію.
22. Няяркі, пацямнелы (пра фарбы, колеры).
24. Гэты алмаз падарыў персідскі валадар расійскаму ўраду, каб палепшыць адносіны паміж краінамі, якія ўскладніла забойства ў Персіі рускага пасла Грыбаедава.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Узор, малюнак, выразаны на цвёрдых матэрыялах.
2. Тонкая гнуткая галінка, дубец.
6. У старажытным Рыме іх называлі "змеярукімі валамі".
7. Дрэва сямейства ружакветных, на якім гронкамі раcтуць аранжава-чырвоныя ягады.
9. Рух з паступова нарастаючай скорасцю.
11. Назавіце афарбоўшчыка, які ў 17 стагоддзі заснаваў парыжскую мануфактуру, якая дала жыццё новаму накірунку ў вырабе дываноў.
12. Далонь і пальцы рукі, складзеныя так, каб імі можна было зачэрпнуць або ўтрымаць.
16. Любімая гульня Марыі Сцюарт. Менавіта ў лісце да архіепіскапа напярэдадні смяротнай кары ёсць першая ў Англіі пісьмовая згадка пра гэту гульню.
17. Рака ў Пастаўскім, Мядзельскім і Астравецкім раёнах, правы прыток Віліі.
20. Месца разрэзу пілой.
21. Вялікі князь літоўскі, сын Гедыміна, бацька Вітаўта.
23. Уладзімір Някляеў: "Гора не будзе, бо .... не было".

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №39. По гарызанталі.** 1. Мандат. 3. Медыяна. 4. Масаж. 5. Дзесятачка. 9. Палацы. 11. Жыллё. 14. Мітусня. 15. Бурштын. 16. Жур. 18. Мазок. 20. Нафта. **Па вертыкалі.** 2. Онікс. 3. Мара. 5. Дуб. 6. Прэзервативы. 7. Жэст. 8. Смерч. 10. Свярдлоўск. 12. Азбест. 13. Матуз. 14. Масць. 16. Жаніх. 17. Орган. 18. Макет. 19. Множання.

## ГАРАСКОП 6-12 КАСТРЫЧНІКА



**АВЕН.** Вам варта патурбавацца пра сваё фінансавае становішча. Цяпер не лепшы час для тратаў, хоць невялікія радасці можна сабе дазволіць. Прысвяціце больш часу дому, стварыце ўтульную атмасферу, і гэта палепшыць ваш настрой значна больш, чым нейкія іншыя клопаты.



**ЦЯЛЕЦ.** Адзіны чалавек, які з вамі ўсё жыццё – гэта вы самі. Акружайце сябе ўсім, што вы любіце – ці то гэта сям'я, жывёлы, расліны, хобі – што заўгодна.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам будзе прыходзіць шмат прыемнай і карыснай інфармацыі. Яна будзе паступаць пераважна праз інтэрнэт ці іншымі шляхамі ад людзей, якія жывуць далёка. Вы адкрыеце для сябе шмат новага ў пытаннях, якія вас цікавяць.



**РАК.** Варта надаць падзеям, якія будуць адбывацца з вамі цяпер, асаблівую ўвагу, бо яны могуць мець уплыў на ваша жыццё яшчэ доўга. Вас могуць чакаць глабальныя перамены, шмат у чым яны могуць закрануць ваша ўнутранае жыццё, але змогуць адбіцца і на знешніх яго атрыбутах. Каб падрыхтавацца і нічога не прапусціць, прыслухоўвайцеся да сябе, уключайце інтуіцыю.



**ЛЕЎ.** Вам цяпер цяжка прыняць правільнае рашэнне. І рэч не ў тым, што нельга ва ўсім разабрацца, а хутчэй у тым, што вы ўжо вельмі стаміліся. Каб па-сапраўднаму адпачыць і скінуць груз стомленасці, вам неабходна на нейкі момант дазволіць сабе ні пра што не клапаціцца. Дазвольце камусьці іншаму прымаць рашэнні за вас.



**ДЗЕВА.** Не мітусіцеся як знешне, так і ўнутры сябе і пастарайцеся ні пра што не клапаціцца, захоўвайце мір і гармонію. Падзеі хоць і будуць нязначнымі, але яны закладуць падмурак для далейшага руху наперад.



**ШАЛІ.** Каб падтрымліваць цела і ўтульнасць дома, а таксама камфортныя адносіны з блізкімі вам людзьмі, недастаткова проста карыстацца гэтымі адносінамі. Неабходна прыкладаць нямала намаганняў, у тым ліку і над сабой.



**СКАРПІЁН.** Вы вельмі актыўныя, пастаянна пачынаеце новыя справы, кідаеце і зноў берацеся. Вы хочаце ўсё паспрабаваць, зрабіць, але проста не хапае сіл і часу. Гэта вымотвае вас. Знайдзіце адзіны цікавы занятак і прысвяціце сябе яму. І будзьце гатовыя і да перамог, і да паражэнняў, тады вам ніхто і нішто не сапсуе добрага настрою.



**СТРАЛЕЦ.** Зоркі раяць выхоўваць у сабе цярпенне. Трэба дасягнуць поспеху ў тым, што псіхолагі называюць эмацыйнай стабільнасцю. Навучыцеся не зрываць злосць на іншых, і тады вам будзе падораная ўдача.



**КАЗЯРОГ.** Трымайце, што называецца, "нос па ветры" і не суньце туды, што вас не тычыцца.



**ВАДАЛЕЙ.** Пастарайцеся змяніць свет вакол вас да лепшага, будзьце прыемныя ў зносінах, усміхайцеся, выкарыстоўвайце любую магчымасць завесці новае знаёмства. Вучыцеся трымаць у руках сябе і свае эмоцыі, каб не рабіць балюча блізкім. Перамога над сабой дасць вам шмат шанцаў.



**РЫБЫ.** У другой палове тыдня ў вас будзе дастаткова энергіі і сіл, каб з напорам праклaсці сабе дарогу ў будучыню і рушыць па ёй наперад.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | | | | 8 | |
| 4 | | 3 | 8 | | | 7 | | |
| 8 | | 9 | | 5 | | | | |
| | | | | 8 | 6 | 9 | | |
| | | 8 | 1 | | 5 | 3 | | |
| | | 1 | 7 | 2 | | | | |
| | | | | 7 | | 6 | | 5 |
| | | 6 | | | 8 | 4 | | 9 |
| | 7 | | | | | | | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155
# Рэгіянальная газета. Rh.by
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

### 7 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +12 | | +7 / +11 | | +8 / +10 | | +5 / +11 | |
| | 726 | ↘ 7 | 734 | ↗ 7 | 733 | → 5 | 740 | → 6 |
| Вільня | +7 / +13 | | +6 / +11 | | +7 / +11 | | +5 / +12 | |
| | 733 | → 6 | 738 | ↗ 7 | 739 | → 7 | 746 | → 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.27
Захад 18.33
Даўжыня дня 11.06

Усход 19.45
Захад 9.05
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -3,9 °C у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +21,1 °C у 1991 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 40 мм у 2002 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **У Вілейцы дзякуючы спонсарскай падтрымцы абсталявалі пляцоўку для спорту на свежым паветры і паставілі скульптуру маці. У Кіеве мясцовы алігарх абсталяваў у парку шыкоўную зону для адпачынку пенсіянераў. Жыхарка Смаргоні праз абвесткі ў сацсетках сабрала грошы на інвалідны вазок, а на кіеўскім Храшчаціку дзякуючы гарадскім актывістам і ўладам паставілі лаўкі для падзарадкі гаджэтаў. Як людзі знаходзяць грошы на добрыя справы, чытайце ў наступным нумары.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Ой, як холадна, і калі ўжо ацяпленне ўключаць!
– Ідзі ў кут пастой.
– Навошта?
– Там 90 градусаў.

***

Восень, дэпрэсія, усё надакучыла. Пайду кінуся пад... коўдру.

***

Мужыкі! Хочаце, каб дзяўчаты беглі да вас насустрач, а часам і за вамі? Хочаце, каб нецярпеннем чакалі ў любое надвор'е? Вілейскае аўтатранспартнае пасажырскае прадпрыемства запрашае на працу вадзіцеляў!

***

Загуляў неяк з дзеўкамі і шлю жонцы смс: "Сёння дамоў не чакай!" Атрымліваю ў адказ: "Гарантуеш?".

***

Не так складана знайсці жанчыну сваёй мары, як схаваць яе ад жонкі.

***

Прафесар ва ўзросце:
– Нядаўна мне прыснілася, што я чытаю лекцыю студэнтам. Прачынаюся. І што вы думаеце? Так і ёсць, чытаю лекцыю!





## НАВІНЫ

## Аўтар "РГ" выдаў краязнаўчую кнігу

**МАЛАДЗЕЧНА**

У выдавецтве "Кнігазбор" у верасні выйшла ў свет кніга **Льва Чырвонцава** "Асколкі гісторыі".


Архіў "РГ".

Аўтар аналізуе падзеі, якія заспеў за жыццё, скрозь прызму лёсу свайго і сваёй сям'і, дзеліцца ўражаннямі пра тое, што бачыў, разважае пра падзеі, удзельнікам якіх быў. Выданне ў цвёрдым пераплёце, тыраж 60 асобнікаў.

Гэта кніга – унікальная магчымасць даведацца пра падзеі, якія адбываліся ў нашым рэгіёне, знутры.

"Лёс кожнага чалавека – гэта асколак гісторыі таго часу, сведкам якога яму давялося быць. І толькі з такіх асколкаў утвараецца сапраўдная і разнастайная карціна гадоў, што адыходзяць у мінулае", – пішацца ў анатацыі.

Кніга падзяляецца на некалькі частак – "Пра час і пра сябе", "Страчанае дзесяцігоддзе", "21 стагоддзе", "З запісных кніжак", а таксама з апавяданняў. Адно з уключаных апавяданняў, "Чытаючы Нобелеўскага лаўрэата", друкавалася ў "РГ" ў ліпеніжніўні.

Леў Чырвонцаў нарадзіўся ў 1937 годзе ў Мінску. Вячэрнюю школу скончыў пасля арміі ў Вілейцы. Закончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, Мінскую вышэйшую партыйную школу.

Працаваў ад 15 год, мае 49 гадоў стажу.

На прадпрыемствах Вілейкі і Маладзечна працаваў грузчыкам, слесарам, токарам, майстрам. Пасля працаваў інструктарам ГК КПБ, дырэктарам КБА, займаў розныя пасады на заводзе "Электрамодуль". Перад пенсіяй працаваў старшынёй гарадскога камітэта народнага кантролю.

Выхаваў трох дачок, мае трох унучак і ўнука.

**Аддзел інфармацыі.**

## Флэш-моб у Маладзечне: 55 дзяцей будуць танцаваць з мішкам

**МАЛАДЗЕЧНА**

Апоўдні ў нядзелю, 8 кастрычніка, на пляцоўцы насупраць ГЦ "Тройка" пройдзе шоу-праграма.

Мерапрыемства арганізуюць новы сямейна-забаўляльны цэнтр "Тэрыторыя ведаў" і студыя сучаснага танца "Пластылін".

Падчас флэшмоба будуць удзельнічаць 55 дзяцей ад трох да пяці год і іх бацькі разам з трохметровым мішкам "Умка", а таксама калектыў Селішчанскага клуба "Гурт "Надзея".

Дзяржаўтаінспекцыя правядзе гульні і конкурсы на веданне правілаў дарожнага руху і дарожных знакаў.

Арганізатары запрашаюць усіх паглядзець на відовішчнае шоу. Наведванне бясплатнае.

**Аддзел інфармацыі.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якую самую дарагую рэч вы набылі за апошні месяц?



**Вольга Хацяновіч, журналістка, Астравец:**
– Самы дарагі набытак – кусты пляцістых руж. Танней-шы, але вельмі патрэбны – кухонныя вагі.



**Вікторыя Шэўчык, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– За апошні месяц самымі дарагімі пакупкамі былі адзенне і абутак да школы. Пастаянная і карысная пакупка – памперсы для малодшага. А купляць нешта дарагое без растэрміноўкі праблематычна, калі знаходзішся ў дэкрэтным. Вось, збіраем грошы на пакупку шафы.



**Уладзімір Сарокін, работнік культуры, Маладзечна:**
– Гэта была не пакупка, а рамонт. Цэлы месяц рамантаваў сваю машыну. Большасць грошай аддаваў на запчасткі. Думаў, што жонка з хаты выганіць.



**Таццяна Максімовіч, настаўніца, Вілейка:**
– З усіх пакупак асабліва жаданымі і радаснымі былі акрылавыя фарбы.



**Аляксандра Івашанка, бухгалтар, Маладзечна:**
– Вырашылі крыху абнавіць мэблю. Набылі невялікі часопісны столік.



**Таццяна Атрошанка, індывідуальны прадпрымальнік, спявачка, Маладзечна:**
– Самы карысны і дарагі набытак – аранжыроўка да новай песні.



**Міхаіл Мурашка, электразваршчык, Вілейка:**
– Пару дзён таму набылі дачцэ-школьніцы зімовую куртку за сто рублёў "з хвосцікам"

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№40 (1171) 6.10.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 941. Падпісана ў друк у 9.00 5.10.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518**.
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.